КУЛЬТУРА ▸ ГРАМАДСТВА ▸ ЭКАНОМІКА ▸
ЛЮДЗІ ▸ ПАДЗЕІ ▸ ФАКТЫ

◂ № 43 (315) ◂ 9 лістапада ◂ 2012 г.
www.novychas.org

# Новы Час

ISSN 2218-2144



УКРАІНА СТВАРАЕ АЎТАРЫТАРЫЗМ ЗНІЗУ

Стар. 6

**ПАМЯЦЬ ДЗЯЛІЦЬ НЕЛЬГА**

Гэты канфлікт пачаўся 28 кастрычніка з-за мемарыяльнага знака, усталяванага польскім афіцэрам

Стар. 4

**НАЦЫЯНАЛЬНЫ МІФ І ДЭМАКРАТЫЗАЦЫЯ: СЛАВАЦКІ ДОСВЕД**

Марцін Мілан Шымечка — вядомы славацкі пісьменнік і публіцыст. А яшчэ дысідэнт і сын дысідэнта Мілана Шымечкі, аднаго з бліжэйшых саратнікаў, а потым дарадцы прэзідэнта Вацлава Гавела. Ён распавёў пра сваё бачанне ролі нацыянальнай ідэі і нацыянальнага міфа галоўнаму рэдактару НЧ Аляксею Каралю

Стар. 5

**ЧАГО ЧАКАЦЬ АД БАСКАЎ?**

Стар. 12

**ЧЫТАЙЦЕ Ў НАСТУПНЫМ НУМАРЫ!**

**ПОЛЬСКА-ФРАНЦУЗСКІ БЛІЦ-КРЫГ ПАД БАБРУЙСКАМ**

Нарыс Ігара Мельнікава

▸ З НАГОДЫ

# ГЕНЕРАЛЫ БЕЗ ВОЙСКА

Вольга ХВОІН

**Перамены і ўсеагульны дабрабыт, відавочна, Беларусь атрымае метадам чароўнай тэлепартацыі з-за мяжы. Прынамсі апошнім часам з-за кардону прыходзяць навіны, паводле якіх можна паверыць у запаветную для беларуса мару: усё зробіць нехта іншы, а вынік будзе тут і цяпер.**




Палітычны гуру свядомых беларусаў канца 1980-х — сярэдзіны 1990-х Зянон Пазьняк выступіў з абвінаваўчымі заявамі на адрас беларускай апазіцыі.

Экс-кандыдат у прэзідэнты Андрэй Саннікаў, які ў 2010 годзе абяцаў памяняць «лысую гуму», атрымаў палітычны прытулак у Англіі. Ключавыя персоны яго перадвыбарчага штабу пасля турэмных выпрабаванняў у Беларусі з'ехалі за мяжу. Кажуць, што разглядаюць ад'езд як працоўную камандзіроўку. У Вільні кіраўніцтва Рады БНР правяло сустрэчу з прадстаўнікамі беларускай апазіцыі з мэтаю «выпрацоўкі захадаў у справе забеспячэння абароны незалежнасці Беларусі». У сукупнасці ад такіх навінаў хочацца ці змяніць «апазіцыйную гуму» оптам, ці падацца ў тую ж эміграцыю ды ва ўнісон пачаць вяшчаць пра барацьбу са злачынным рэжымам і апошняю дыктатураю Еўропы. Перспектыва ж заставацца ў зоне безнадзейнай Беларусі выклікае як мінімум прыступы дэпрэсіі.

Канешне, кожны мае права на свой выбар, дзе і ў якіх умовах жыць. Працягваць ахвярнае ўскладанне на прывідны падмурак беларускай дэмакратыі свайго здароўя і жыцця ці змяніць дэкарацыі на больш бяспечныя і камфортныя. Па-чалавечы зразумелыя словы Андрэя Саннікава, што цяпер для яго галоўнае — сям'я і яе бяспека. І гэтыя ж словы выклікаюць роспач у тых людзей, якія ў снежні 2010 года мерзлі на мітынгу ды бараніліся голымі рукамі ад амапаўскіх дубінак, паверыўшы ў магчымасць пераменаў пад кіраўніцтвам апазіцыйных лідараў.

Таму цалкам верагодна, што ў выніку лідарскія пазіцыі ў пэўны момант займуць не выкшталцоныя дыпламаты а-ля еўрапейскі палітык, а моцныя беларускія дзядзькі. Бо супрацьстаяць моцнай і бязлітаснай фігуры беларускага кіраўніка здольны не менш моцны ў сіле духу чалавек. Ды і наіўна думаць, што ў момант «Х» беларусы пойдуць падстаўляць свае галовы за чалавека, які знаходзіцца недзе ў Нью-Ёрку ці Лондане. За лідарам ідуць, калі бачаць яго наперадзе, а не ў міфічным штабе.

І ў гэтай сітуацыі надта прыкра выглядае той факт, што палітэмігранты — асаблівыя майстры развешваць ярлыкі «сексотаў» і «агентаў» на людзей, якія засталіся ў Беларусі. А што супрацьпаставіць? Распіску з велічнага будынку на цэнтральным мінскім праспекце, што такім не з'яўляешся, уступаць у палеміку, даказваць адваротнае, паліваць брудам, прыпамінаючы старыя грахі? Але ў выніку такіх абвінавачванняў усе быццам бы пры справе: адны выкрываюць, другія, уцягнутыя ў спрэчкі, вымушаныя рэагаваць.

Прыхільнікі пераменаў тым часам па кухнях наракаюць на адсутнасць лідараў, альтэрнатывы, пакуюць чамаданы, абіраючы краіны для жыцця з чыстага ліста. А ўслед гэтым «несвядомым» грамадзянам сыплюцца развагі пра тое, чаму ж яны не бароняць сваё ды не змагаюцца за перамены ўнутры Беларусі. Менш мабільныя суайчыннікі проста прыстасоўваюцца да беларускіх рэалій, мірацца з тым, што ні апазіцыйным лідарам, ні ўладзе яны асабліва не патрэбныя. Ваяры без камандзіра, камандзір без войска.

Каментуючы хвалю апошніх палітычных эмігрантаў, аналітыкі падкрэсліваюць, што рэальна змяніць сітуацыю ці на нешта ўплываць можна толькі калі фізічна прысутнічаць у краіне. Ускладаць жа моцныя спадзевы на палітэмігрантаў, якія і ў аддаленасці ад Беларусі і быццам бы працуючы на адзін вынік здольныя да міжасабовых канфліктаў і перацягвання коўдры, няма аб'ектыўных падстаў. Хаця моцная, аб'ядналая беларуская супольнасць звонку была б вельмі карыснай для краіны.

Агульнападаўлены маральны стан часткі грамадства, што трымаецца дэмакратычных поглядаў, абяцае завіснуць на нявызначаны тэрмін. Людзям патрэбная ўцямная, знешне дзеяздольная пазітыўная альтэрнатыва. І рэальныя, даступныя персоны лідараў, а не заслужаныя дзеячы беларускай апазіцыі ў аддаленасці на тысячы кіламетраў. Між іншым, знаходзячыся па-за межамі Беларусі, вельмі хутка губляецца адчуванне рэальных працэсаў, што тут адбываюцца. Адпаведна, і праграмы-тактыкі-кампаніі, якія вылучаюцца з-за мяжы, складана ўпісаць у настрой людзей. Ці не з гэтай прычыны згаслі леташнія маўклівыя акцыі пратэсту (некаторыя нават звязвалі з імі спадзевы на зрухі ў грамадстве), якія каардынаваліся з Варшавы? Усё ж трымаць руку на пульсе грамадства можна толькі ў выпадку, калі гэтая рука ў дасягальнай адлегласці.

## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### ГОМЕЛЬ. АКТЫВІСТ БХД ЗНОЎ ПАЗБАЎЛЕНЫ ПРАЦЫ

Гомельскі актывіст аргкамітэту па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» Андрэй Папоў страціў працу. Раней ён уладкаваўся на РУП СКТБ «Металапалімер» слесарам, але ўзялі яго на працу з выпрабавальным тэрмінам.

«У канцы кастрычніка нам, рабочым прадпрыемства, затрымалі заробак і не патлумачылі прычынаў. Я пра гэта паведаміў журналістам, і ў інтэрнэце пра затрыманне заробку з'явілася інфармацыя. На прадпрыемстве даведаліся, што гэта я распавёў пра затрыманне заробку, і са мной не пагадзіліся працягваць далей працоўныя стасункі», — патлумачыў Андрэй Папоў.

РУП СКТБ «Металапалімер» займаецца вытворчасцю рознага абсталявання з поліэтылену, дэталяў з тэрмапластычных палімераў, нестандартных металаканструкцый.

Праз сваю актыўную пазіцыю Андрэй Папоў ужо пазбаўляўся працы: раней на дрэваапрацоўчым прадпрыемстве, дзе ён працаваў, практыкавалася змяшчэнне работнікаў на «Дошку ганьбы». Актывіст дамагаўся, каб гэта практыка, якая прыніжае чалавечую годнасць, была адменена. Урэшце ён застаўся без працы.

### БРЭСТ. МЫТНІКІ СКАРДЗЯЦЦА Ў ААН

22 былыя інспектары брэсцкай мытні «Заходні Буг» і 7 былых механікаў тэрмінала прадпрыемства «Вестаўта» накіравалі індывідуальныя звароты ў гэтую міжнародную структуру яшчэ ў сакавіку мінулага года. Яны звярталі ўвагу на парушэнне прынцыпаў справядлівага судовага разбіральніцтва.

Як зазначыў праваабаронца Раман Кісляк, сама скарга была зарэгістравана 24 кастрычніка 2012 года, але інфармацыя пра гэта з'явілася толькі зараз. Кісляк нагадаў, што на працягу 2004–2005 гадоў аўтары скаргі былі асуджаныя на розныя тэрміны пазбаўлення волі па абвінавачванні ў злоўжыванні службовым становішчам і пасобніцтве ва ўхіленні ад выплаты мытных плацяжоў групай асобаў. Абвінавачванне грунтавалася на фактах, калі на беларускай мяжы ў Брэсце мытнікі афармлялі транзіт вялікагрузных аўтамабіляў, але ў Польшчу гэтыя машыны не траплялі. Пазней асуджаным па згаданай справе быў таксама прад'яўлены грамадзянскі іск, паводле якога яны мусяць сплаціць ад 80 мільёнаў да 2 мільярдаў рублёў.

Нягледзячы на тое, што пасля шматразовых зваротаў у Генеральную пракуратуру ў 2007 годзе там была створана следчая група, якая прыйшла да высновы, што толькі 10 асуджаных бралі ўдзел у злачынстве, якое інкрымінавалася ўсім абвінавачаным, Вярхоўны суд РБ адмовіўся аднавіць разгляд справы паводле новых абставінаў.

Аўтары скаргі ў Камітэт ААН лічаць, што суд не адпавядаў крытэрам незалежнасці і бесстароннасці, а таму патрабуюць прызнаць парушэнне іх права на справядлівае судовае разбіральніцтва, прадугледжанае артыкулам 14 Міжнароднага пакту аб грамадзянскіх і палітычных правах.

Па словах Рамана Кісляка, бадай што ўпершыню Камітэт ААН па правах чалавека мае намер разгледзець скаргу з Беларусі, якая тычыцца такой вялікай колькасці асобаў. Праваабаронца нагадаў, што, у адпаведнасці з працэдурай, на працягу шасці месяцаў беларускі ўрад павінен пракаментаваць скаргу. Што тычыцца далейшага лёсу гэтага звароту, дык справа можа разглядацца ад двух да пяці гадоў, але бываюць выпадкі, калі працэс зацягваецца на яшчэ больш тэрмін.

### СЛОНІМ. ПАДАТКІ ЗА БЯСПЛАТНЫЯ КАНСУЛЬТАЦЫІ



Слонімскага доктара, актывіста Партыі БНФ Івана Шэгу выклікалі ў мясцовую інспекцыю па падатках і зборах па Слонімскаму раёну, дзе яму выказалі заўвагі наконт таго, што ён не адлічае падаткаў за дзейнасць недзяржаўнай асветніцка-кансультатыўнай установы «Шэгамедкансульт», якая з цяжкасцю, але ўсё ж была зарэгістравана сёлета 14 сакавіка Слонімскім райвыканкамам.

Доктар Іван Шэга быў здзіўлены такой заўвагай і папярэджаннем. Ён некалькі разоў тлумачыў у падатковай інспекцыі, што яго ўстанова бясплатна дае слонімцам кансультацыі па медыцыне, юрыдычных пытаннях, звязаных з лячэннем і платнымі медыцынскімі паслугамі і г.д. «Дык які тут можа быць падатак? Калі людзям мы аказваем бясплатныя кансультацыі», — абурыўся доктар. Тым не менш, у падатковай інспекцыі папярэдзілі, што два разы на год ён павінен наведваць падатковую інспекцыю.

Нагадаем, што ў пачатку гэтага года спадар Шэга хацеў зарэгістраваць установу пад назвай «Панцеляймон» — у гонар святога вялікапакутніка Панцеляймона, які дапамагае пазбаўляцца ад цялесных і духоўных хваробаў. Але доктар ніяк не мог прайсці першы этап рэгістрацыі. Каля 15 розных адмоўных адказаў ён атрымаў з аддзела па вядзенні Адзінага дзяржаўнага рэгістра Гродзенскай вобласці. У адным з адказаў намеснік начальніка аддзела А.В. Губановіч нават паведаміў, што *«не допускаются к согласованию собственные имена лиц, если они не совпадают с именами учредителей и учредители не получили разрешения таких лиц (их наследников)»*. Выходзіць, што Івану Шэгу трэба было звяртацца па дазвол да святога Панцеляймона. Таму заснавальніку давялося змяніць назоў установы на «Шэгамедкансульт».

**Матэрыялы падрыхтаваныя паводле інфармацыі сайта spring96.org**

ХАДАЙНІЦТВА

## РАЗБЛАКУЙЦЕ РАХУНАК «ARCHE–ПАЧАТАК»

**Кіраўніцтва БАЖ адправіла афіцыйны ліст дырэктару Дэпартамента фінансавых расследаванняў (ДФР) Камітэту дзяржкантролю Рыгору Вярэмку.**

«ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў» звяртаецца да вас з нагоды сітуацыі, якая склалася вакол часопіса «Arche» і вельмі трывожыць прадстаўнікоў журналісцкай супольнасці Беларусі», — гаворыцца ў пасланні.

«Пачынаючы ад затрымання 14 верасня ў Гродне тагачаснага галоўнага рэдактара часопіса Валера Булгакава і да цяперашняга моманту адбываюцца падзеі, якія могуць паставіць крыж на далейшым існаванні выдання», — выказвае апасенне арганізацыя.

У прыватнасці, у межах праверкі дзейнасці рэдакцыі Упраўленне ДФР па Мінскай вобласці і г. Мінску вынесла прадпісанне прыпыніць аперацыі па рахунках «Arche–Пачатак», — нагадвае ГА «БАЖ».

«Прадпісанне было вынесена нібыта на падставе адмовы прадстаўніць для праверкі дакументы бухгалтарскага і падатковага ўліку і іншыя дакументы, звязаныя з фінансава-гаспадарчай дзейнасцю рэдакцыі. Па інфармацыі, якую ГА «БАЖ» атрымала ад сябраў арганізацыі — супрацоўнікаў часопіса, ніякіх адмоваў у прадстаўленні УДФР дакументаў ад іх не паступала. Сітуацыя з'яўляецца следствам супярэчлівых патрабаванняў супрацоўнікаў УДФР, якія выказваліся ў вуснай форме», — піша ГА «БАЖ».

Аўтары ліста прыгадваюць праграму БТ «Зона Х», у якой сярод іншых браў удзел неназваны супрацоўнік УДФР. «Абвінавачанні, што прагучалі па БТ, даюць падставы дапускаць палітычныя матывы пераследу часопіса, — гаворыцца ў лісце ГА «БАЖ». — Безумоўна, ДФР мае поўнае права правяраць дзейнасць суб'ектаў гаспадарання, у тым ліку і рэдакцыю часопіса. Але, на нашу думку, блакаванне рахунку часопіса з'яўляецца крайняй мерай уздзеяння, у прымяненні якой не было пільнай патрэбы. Між тым, менавіта праз гэта часопіс пазбаўлены магчымасці выконваць свае абавязкі перад чытачамі і найперш перад падпісчыкамі».

**Прэс-служба ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў»**

ІНІЦЫЯТЫВА

## ДЛЯ АБАРОНЫ КУРАПАТАЎ

**Марат ГАРАВЫ**

**6 лістапада аднаўлена дзейнасць грамадскай ініцыятывы «За ўратаванне мемарыяла «Курапаты».**

Арганізацыя была створана ў канцы верасня 2001 года ў адказ на пашырэнне ўладамі Мінскай кальцавой аўтадарогі ў сувязі з небяспекай страты Месца згубы ахвяр палітычных рэпрэсій 1930–1940-х гадоў «Курапаты». Сярод заснавальнікаў — больш за 25 грамадскіх структур і прадстаўнікі інтэлігенцыі: Васіль Быкаў, Рыгор Барадулін, Ніл Гілевіч, Сяргей Грахоўскі і Артур Вольскі.

Аднаўленне дзейнасці звязана з пратэстамі грамадскасці супраць будаўніцтва забаўляльнага комплексу на паўночным ускрайку Курапатаў. Да інцыятывы далучыліся прадстаўнікі міжнароднага гісторыка-асветніцкага, дабрачыннага і праваабарончага таварыства «Мемарыял», Беларускай асацыяцыі ахвяраў палітычных рэпрэсій, аб'яднанняў «Дыярыуш» і «Хрысціянская злучнасць Курапаты», грамадзянскіх ініцыятываў «За Волю» і «Хрысціянскі рух», праваслаўнай аўтакефаліі, мінскай поўнаевангельскай царквы «Новае жыццё», суполкі «Пагоня» Беларускага саюза мастакоў, Аб'яднанай грамадзянскай партыі, Партыі БНФ, грамадзянскіх кампаній «Еўрапейская Беларусь» і «Гавары праўду», аргкамітэта па стварэнню партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя», рухаў «Маладая Беларусь» і «Разам». На пасяджэнне былі запрошаныя і прадстаўнікі КХП–БНФ, але яны не з'явіліся на сустрэчу.

Каардынатарамі ініцыятывы абраныя лідар грамадзянскай ініцыятывы «За Волю» Ганна Шапуцька, лідар руху «Маладая Беларусь» Зміцер Каспяровіч і старшыня грамадзянскага аб'яднання «Хрысціянская злучнасць «Курапаты» Вацлаў Нямковіч.

Па праблеме законнасці будаўніцтва забаўляльнага комплексу каля Курапатаў ініцыятыва вырашыла звярнуцца да генеральнага пракурора Аляксандра Канюка, старшыні Камітэта дзяржаўнага кантролю Аляксандра Якабсана, старшыні Мінскага аблвыканкама Барыса Батуры і міністра культуры Паўла Латушкі.

Акрамя таго, па пытанню сустрэчы з грамадскасцю вырашана пісьмова звярнуцца да заказчыкаў будаўніцтва забаўляльнага комплексу.

Для стварэння інтэрнэт-сайту ініцыятывы ўдзельнікі пасяджэння сабралі неабходныя сродкі.

ВЕЧАРЫНА

## КЛАСІКІ ЗА КРАТАМІ

**Вольга ХВОІН**

**У Івацэвіцкай калоніі вязні зладзілі літаратурна-музычную вечарыну «Мелодыю мовы славянскай я чую», прымеркаваную да 130-годдзя Янкі Купалы і Якуба Коласа.**

Вечарына адбылася яшчэ напрыканцы красавіка гэтага года. Рэдакцыя НЧ гэтую падзею ацаніла надзвычай станоўча, хай сабе і навіна пра яе дайшла са спазненнем, але на тое ёсць аб'ектыўныя прычыны. Пра літаратурна-музычную вечарыну распавёў пасля свайго вызвалення былы вязень калоніі Сяргей Глушак.

Арыштанты чыталі творы аўтарства Коласа і Купалы, распавялі гледачам пра жыццёвыя этапы класікаў беларускай літаратуры: гісторыя сям'і, этапы працы і грамадскай дзейнасці, прыватнае жыццё і яго адбітак на творчасці, гады Вялікай Айчыннай вайны.

Цікавая і музычная складовая вечарыны: гучалі песні «Падае дождж» (стала вядомай у выкананні Вайцюшкевіча), «Лёгкія» (N.R.M), а завяршала дзею песня «Грай» (Ляпіс Трубяцкой) у выкананні вязняў, гэтыя ж словы былі нават асобна вылучаныя ў сцэнары мерапрыемства:

*«Грай! Спявай! Дружна песні райскай волі!*

*Грай! Грай! Гані быкоў — вярнецца доля!»*

Варта таксама адзначыць, што арганізатары вечарыны паклапаціліся не толькі пра яе змест, але і пра эстэтычнае, знешняе афармленне: удзельнікі падрыхтавалі з падручных сродкаў нацыянальныя беларускія касцюмы.



Здрава Сяргей Глушак

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# ЦІ НЕ ЗАНАДТА МЫ ЛЮБІМ ГРОШЫ?

Сяргей САЛАЎЁЎ



**Скептыцызм не заўсёды добры. Калі ў Каўнасе на Другім кангрэсе даследчыкаў Беларусі я чуў меркаванні палітолага Андрэя Суздальцава пра магчымасць здзяйснення ў Беларусі новых тэрактаў, я яму не верыў. Аказваецца, дарма.**

Тады Суздальцаў казаў пра тое, што, як толькі Беларусь фінансава прыціскаецца — Масквой ці Захадам, як толькі ўзнікае неабходнасць аддаваць крэдыты, у беларускай улады знаходзяцца іншыя (і вельмі важныя!) справы. Тэракт у метро ў 2011 годзе, на думку палітолага, мабілізаваў беларускае грамадства вакол улады ў час эканамічнага крызісу. «Вось пабачыце, калі ў Лукашэнкі настане час аддаваць крэдыты ці зноў спатрэбяцца грошы, на мяжы з Літвой альбо Польшчай з'явіцца нейкі партызанскі атрад, які зноўку трэба будзе лавіць і абараняць Маскву ад палякаў, якія з шаблямі ідуць захапіць Крэмль», — заяўляў Суздальцаў.

Шмат хто ставіўся да гэтага скептычна. Але зараз падобна на тое, што прагноз палітолага спраўджваецца.

Не так даўно Масква заявіла пра планы скараціць пастаўкі нафты ў Беларусь у чацвёртым квартале 2012 года з 5,3 да 4 мільёнаў тон у адказ на «растваральны» бізнэс, якім беларускі бок займаўся ў першым паўгоддзі. Нафтапрадукты, выраблены ў Беларусі з расійскай сыравіны, экспартаваліся ў Еўропу пад выглядам разбавіцеляў і растваральнікаў, што не абкладаюцца экспартнай пошлінай. Паколькі гэтая пошліна павінна была паступаць у расійскі бюджэт, Расія недалічылася буйной сумы. 29 кастрычніка стала вядома, што Масква патрабуе ад Беларусі кампенсаваць 1,5 мільярда доляраў у якасці недаатрыманай пошліны ад «растваральнага» бізнэсу.

> Беларусі тэрмінова латаць транзітную трубу, на што таксама патрэбныя грошы. Альбо іх Масква дасць, альбо хай прабачаць нам 1,5 мільярда доляраў пошліны

Урадавая дэлегацыя неадкладна выехала ў Маскву. 2 лістапада віцэ-прэм'ер Беларусі Уладзімір Сямашка паведаміў, што з расійскім бокам дасягнута дамоўленасць аб пастаўцы ў Беларусь 5,3 мільёна тон нафты.

5 лістапада намеснік міністра энергетыкі Расіі Павел Фёдараў заявіў, што разглядаецца магчымасць пастаўкі ў Беларусь да канца гэтага года 4,8 мільёна тон нафты ва ўвязцы са зваротнымі пастаўкамі 200 тысяч тон бензіну.

6 лістапада прэс-сакратар кампаніі «Транснафта» Ігар Дзёмін паведаміў, што ў лістападзе ў Беларусь плануецца дадаткова паставіць 315 тысяч тон нафты, у снежні — 420 тысяч тон. Апрача таго, дадаў ён, «на снежань шукаецца магчымасць павелічэння дадатковых аб'ёмаў да 600 тысяч тон». «Але пакуль яе няма», — падкрэсліў прэс-сакратар. На лістапад, паводле слоў Дзёміна, ужо афармлены 275 тысяч тон з 315-ці. «Шукаем дадатковыя 40 тысяч тон», — сказаў ён. У цэлым па квартале «пакуль атрымліваецца пастаўка ў Беларусь у аб'ёме 4,75 мільёна тон». «Калі ў снежні атрымаецца знайсці дадатковы аб'ём у 600 тысяч тон, то квартальныя пастаўкі ў Беларусь складуць 4,9 мільёна тон», — сказаў прэс-сакратар «Транснафты».

У той жа час, калі нашы нафтавікі абмяркоўвалі пастаўкі сыравіны, у Беларусі адбываюцца дзіўныя здарэнні, якія прымушаюць узгадаць словы Суздальцава.

5 лістапада раптам з'яўляецца інфармацыя, што ў раёне другой заставы Гродзенскай памежнай групы на адным з участкаў беларуска-польскай мяжы адбыўся выбух. Пазней было ўстаноўлена, што выбух адбыўся ў перыяд з 21.10 да 21.20 4 лістапада. «Вынікі вывучэння слядоў на мясцовасці дазваляюць вылучыць версію аб датычнасці да выбуху асоб, якія рабілі спробу або ўчынілі незаконнае перамяшчэнне праз мяжу», — сказаў прэс-сакратар КДБ Антановіч.

6 лістапада з'яўляецца паведамленне, што двое чачэнцаў, грамадзян Расіі, былі затрыманы 4 лістапада на ўчастку адной з застаў Брэсцкай пагранічнай групы. Незвычайнасць здарэнню надало тое, што каўказцы спрабавалі нелегальна перасячы мяжу не з Беларусі ў Польшчу, а з Польшчы ў Беларусь.

Ну чым не «партызанскі атрад чачэнскіх баевікоў з выбухоўкай»? І акурат падчас перамоваў па нафце! Ці гэта супадзенне? А можа Суздальцаў меў рацыю? І зараз афіцыйны Мінск будзе скарыстоўваць чачэнцаў як дэманстрацыю Маскве: маўляў, мы абаранілі вас ад тэрарыстаў, дайце грошай.

А калі не дадуць грошай — адключым нафту. Прыблізна ў 11.00 4 лістапада адбыўся разрыў нафтаправода Унеча — Мазыр рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства «Гомельтранснафта Дружба» канцэрна «Белнафтахім». Разрыў здарыўся каля вёскі Ігаўка Добрушскага раёна. Нафта разлілася на плошчы прыкладна 100 квадратных метраў.

Так што трэба Беларусі тэрмінова латаць транзітную трубу, на што таксама патрэбныя грошы. Альбо іх Масква дасць, альбо хай прабачаць нам 1,5 мільярда доляраў пошліны. Інакш мы не адказваем за наступствы і стабільную працу нафтаправода.

Пакуль што выбіваецца з гэтага лагічнага шэрагу напад на пасольства Літвы ў Мінску. Інцыдэнт адбыўся позна вечарам 6 лістапада — невядомыя кінулі бутэлькі з запальнай сумессю на тэрыторыю пасольства Літвы. Узгаранне пагасілі літоўскія паліцэйскія.

Адразу ж следчы камітэт распачаў бурную дзейнасць. Для расследавання крымінальнай справы ў сувязі з атакай невядомых на пасольства Літвы ў Мінску створана следчая група з ліку найбольш кваліфікаваных следчых. Органам унутраных спраў даручана правядзенне аператыўна-вышуковых мерапрыемстваў. Пытанне аб перадачы відэазапісу з камер назірання вырашаецца ва ўстаноўленым законам парадку ў адпаведнасці з міжнароднымі нормамі. Крымінальная справа пакуль распачата за хуліганства.

Калі б гэты інцыдэнт адбыўся з расійскім пасольствам — можна было б будаваць канспіралагічныя версіі ў падтрымку Суздальцава. Калі б, як раней, на тэрыторыю пасольства Літвы кінулі б улёткі з напамінам пра 7 кастрычніка, таксама было б усё зразумела. Пакуль што ніводная з больш-менш радыкальных арганізацый адказнасць за гэта на сябе не ўзяла — ні РНЕ, ні нацыянал-бальшавікі, ні анархісты. Варта адзначыць, што беларуская міліцыя ніводнага разу не знайшла тых, хто раней закідваў пасольства Літвы пляшкамі з фарбай альбо ўлёткамі.

Можа, гэтым разам знойдуць і пакажуць Еўропе, што ў нас таксама ідзе барацьба з міжнародным тэрарызмам? А можа, гэта спроба паказаць той жа самай Маскве, што ў нас і без іх клопату багата, і «дайце грошай, а то вашы «тэрарысты» «падвісну́ць»?

У сувязі з гэтым узнікае пытанне: а ці не занадта мы любім грошы, калі за гэта гатовы на ўсё — на выбухі, на закідванне пасольстваў «кактэйлямі Молатава»? Гэта ж і для нас небяспечна.

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ

### ПАВЕЛ САПЕЛКА



Праваабаронцу, былога адваката Паўла Сапелку ўзнагародзяць прэстыжнай прэміяй «За абарону правоў чалавека», паведамляе ПЦ «Вясна». Інфармацыя пра гэта прыйшла ад Савета адвакацкіх аб'яднанняў і юрыдычных таварыстваў Еўропы. Эксперты адзначаюць важнае значэнне дзейнасці Паўла Сапелкі, яго настойлівасць, адданасць справе і смеласць у падтрымцы фундаментальных каштоўнасцяў. Савет прадстаўляе каля 1 мільёна еўрапейскіх юрыстаў з калегіі адвакатаў і юрыдычных таварыстваў.

«Савет лічыць, што ваш непахісны ўдзел у кампаніі ў абарону правоў чалавека на Беларусі, нягледзячы на пагрозы з боку органаў дзяржаўнай улады, заслугоўвае ўзнагароды. Гэтай узнагародай еўрапейскія юрысты хацелі б адзначыць вашу адданасць справе, настойлівасць і смеласць у падтрымцы фундаментальных каштоўнасцяў», — гаворыцца ў звароце Савета адвакацкіх аб'яднанняў, адрасаваным Паўлу Сапелку.

Нагадаем, 3 сакавіка 2011 года прэзідыум Мінскай гарадской калегіі паводле рашэння Мінюста пазбавіў Сапелку права займацца адвакацкай дзейнасцю. Павел Сапелка на працягу многіх гадоў абараняў фігурантаў «гучных» палітычных працэсаў. Ён быў абаронцам Мікалая Аўтуховіча, Цімафея Дранчука, прадстаўляў у судзе інтарэсы Зінаіды Ганчар па справе зніклага ў 1999 годзе Віктара Ганчара, быў адвакатам фігуранта «справы чатырнаццаці» Аляксандра Баразенкі, абараняў рэдактара газеты «Навінкі» Паўла Канавальчыка па справе аб абразе прэзідэнта. А пасля выбарчай кампаніі–2010 з'яўляўся абаронцам былога кандыдата ў прэзідэнты Андрэя Саннікава, а таксама лідара БХД Паўла Севярынца і лідара «Маладога фронту» Змітра Дашкевіча.

### ЛІДЗІЯ ЯРМОШЫНА



Цэнтральная камісія Беларусі па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў прыступіла да распрацоўкі законапраекта аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Выбарчы кодэкс. Кіраўнік Цэнтрвыбаркаму Лідзія Ярмошына паведаміла, што прапануецца, напрыклад, даць правы вылучаць кандыдатаў у дэпутаты рэспубліканскім грамадскім арганізацыям колькасцю больш за 1 тысячу сябраў. У ліку магчымых новаўвядзенняў — стварэнне тэрытарыяльных выбарчых камісій абласцей і Мінска, якія паслужаць прамежкавым звяном паміж ЦВК і акруговымі камісіямі пры разглядзе скаргаў, пашырэнне паўнамоцтваў судоў у гэтай сферы.

У законапраект могуць увайсці нормы, якія прадстаўляюць больш фінансавай свабоды ўдзельнікам выбарчай кампаніі. Плануецца, у прыватнасці, зняць абмежаванне па суме, якую кандыдаты могуць самі ўносіць у свой выбарчы фонд. «Трэба ўжо, урэшце, перастаць цалкам фінансаваць передвыбарчую агітацыю за кошт бюджэту. Калі кандыдат ідзе на выбары, ён сам павінен думаць, адкуль браць грошы. Гэта агульнасусветная практыка, а ў нас да гэтага часу сацыяльная кампанія», — цытуе БелТА Лідзію Ярмошыну.

У той жа час пераход аплаты перадвыбарных выдаткаў у прыватныя рукі не павінен прывесці да залежнасці кандыдата ад яго спонсараў, і тым больш пацягнуць за сабой прыцягненне замежнага капіталу да фінансавання выбарчай кампаніі, заўважыла кіраўніцтва ЦВК.

### АЛЯКСАНДР ЯКАБСОН



Тэхнічны стан мінскага стадыёна «Дынама» ствараe рэальную пагрозу для бяспекі і здароўя яго наведвальнікаў. Пра гэта заявіў старшыня Камітэта дзяржаўнага кантролю Аляксандр Якабсон 5 лістапада на нарадзе па пытанні рэканструкцыі стадыёна, паведамляе БелаПАН са спасылкай на прэс-службу Лукашэнкі.

Якабсон, у прыватнасці, пералічыў факты, якія давялі стадыён да яго цяперашняга стану, хаця размова пра неабходнасць грунтоўнай рэканструкцыі вядзецца ўжо не адзін год. Гэтаму спрыялі як цяганіна з боку чыноўнікаў, так і тэхналагічныя парушэнні, дапушчаныя ў час рэканструкцыі напрыканцы 1990-х гадоў. Напрыклад, пры мантажы новых сядзенняў была пашкоджана гідраізаляцыя падтрыбунных памяшканняў, з-за чаго туды рэгулярна пранікала вільгаць, утваралася сырасць і цвіль.

«Тэхнічны стан канструкцый стадыёна, інжынерных камунікацый, унутранае ўтрыманне падтрыбунных памяшканняў ствараюць рэальную пагрозу для бяспекі і здароўя наведвальнікаў стадыёна, убогія ўмовы для карыстальнікаў памяшкання наносяць урон рэпутацыі гістарычнага сімвала беларускага футбола», — канстатаваў старшыня КДК. Аляксандр Лукашэнка на нарадзе запатрабаваў правесці рэканструкцыю мінскага стадыёна «Дынама» да канца 2014 года.

▸ КАНФЛІКТ

# ПАМЯЦЬ ДЗЯЛІЦЬ НЕЛЬГА

Марат ГАРАВЫ

**Гэты канфлікт пачаўся 28 кастрычніка з-за мемарыяльнага знака, усталяванага польскім афіцэрам.**



Першаадкрывальнік Курапатаў Зянон Пазьняк фактычна абвінаваціў гісторыка Ігара Кузняцова і ў непрафесіяналізме, і ў супрацоўніцтве з КДБ.

На думку Ігара Кузняцова, заявы беларускіх афіцыйных асоб пра тое, што беларускага катынскага спісу няма, а ў гады сталінскіх рэпрэсій на Беларусі не забілі ні аднаго паляка, зрабілі неабходным узвядзенне ў Курапатах сімвалічнага мемарыяльнага знаку афіцэрам польскага войска розных нацыянальнасцяў, расстраляных НКУС на Беларусі з красавіка 1940 па чэрвень 1941 года.

«На самай справе, дакладныя месцы забойства (акрамя дзвюх — пад Глыбокім і Оршай) і пахаванняў гэтых бязвінных людзей не вядомыя да гэтага часу, і магчыма, ніколі не стануць вядомымі, — распавёў Ігар Кузняцоў. — Вось чаму памятны знак і запланавана ўзвесці менавіта ў Курапатах — адзіным у краіне афіцыйна прызнаным месцы згубы ахвяраў палітычных рэпрэсій 1930–1940-х гадоў. Тым больш, што забойствы НКУС ахвяраў польскай аперацыі і іх пахаванне маглі адбывацца ў шэрагу вядомых месцаў масавых расстрэлаў перыяду сталінізму ў Мінску і яго наваколлі, у тым ліку — і ў Курапатах. З 510 магільных западзін, што захаваліся ў Курапатах, толькі на васьмі была зроблена эксгумацыя пад кіраўніцтвам Зянона Пазьняка. Аднак на выснове гэтых раскопак спадар Пазьняк заявіў, што ва ўсіх курапацкіх пахаванных знаходзяцца парэшткі выключна забітага цывільнага насельніцтва. У кастрычніку 1997-га — траўні 1998 гадоў Беларуская ваенная пракуратура правяла эксгумацыю яшчэ дзевяці пахаванняў ва ўрочышчы. Прычым у некаторых з пахаванняў, у тым ліку ў раскопе № 10, былі знойдзены дзве зоркі і сем гузікаў ад форменнай вопраткі вайскоўцаў Чырвонай Арміі».

«Каб зрабіць выснову пра адсутнасць у Курапатах пахаванняў афіцэраў польскага войска, трэба правесці эксгумацыю астатніх магільных западзін. Я хацеў бы адзначыць, што на сённяшні дзень, на жаль, з'яўляюся адзіным беларускім даследчыкам, які абараніў кандыдацкую дысертацыю па тэме палітрэпрэсій перыяду сталінізму і рэабілітацыі ахвяраў тэрору. За наступныя 20 гадоў я напісаў 9 кніг і больш за 400 навуковых артыкулаў па гісторыі гэтых рэпрэсій. А любыя абвінавачванні ў маім супрацоўніцтве са спецслужбамі выглядаюць абсурдам, бо дзе вы бачылі супрацоўнікаў айчынных спецслужбаў, якія б увекавечвалі памяць ахвяраў сталінізму?» — падкрэсліў гісторык.

Паколькі выказванні Зянона Пазьняка закранаюць гонар і годнасць не толькі Ігара Кузняцова, але і іншых сяброў Грамадскага аргкамітэта па правядзенні Года памяці ахвяраў таталітарызму ў Беларусі, па ініцыятыве каторых у Курапатах была ўсталяваная закладная шыльда будучага памятнага знака афіцэрам польскага войска розных нацыянальнасцяў, 6 лістапада яны накіравалі да беларускай грамадскасці адкрыты зварот.

Сярод яго падпісантаў — былыя вязні ГУЛАГу Уладзімір Раманоўскі, Сяргей Ханжанкоў і старшыня Беларускай асацыяцыі ахвяраў палітычных рэпрэсій Зінаіда Тарасевіч; гісторыкі Ларыса Андросік і Ігар Кузняцоў, культуролаг Вацлаў Арэшка, каардынатар грамадзянскіх ініцыятываў «За Волю» і «За ўратаванне мемарыяла «Курапаты» Ганна Шапуцька, а таксама каардынатар кампаніі «Пакаянне» аргкамітэту па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» Валерыя Чарнаморцава.

У звароце:: «Да вас звяртаюцца людзі, якія на працягу многіх гадоў дапамагаюць грамадству даznaцца пра трагедыю палітычных рэпрэсій на Беларусі ў перыяд сталінізму і робяць свой пасільны ўнёсак дзеля таго, каб такое злачынства больш ніколі не здаралася на нашай зямлі.

Вось чаму мы з болем і абурэннем успрынялі несправядлівыя і паклёпніцкія словы старшыні КХП–БНФ Зянона Пазьняка (…).

Мы вельмі ўстрывожаныя тым, што такія дзеянні старшыні КХП–БНФ спрыяюць не справе аб'яднання грамадзянскай супольнасці, а яе расколу. Недапушчальна дзяліць памяць пра бязвінна загубленых ахвяраў сталінізму па нацыянальнай, канфесійнай ці сацыяльнай прыкметах. Мы супраць любых спроб манапалізацыі праўды на гісторыю палітрэпрэсій 1920–1950-х гадоў. Мы супраць любых спроб "прыватызацыі" месцаў расстрэлаў і пахаванняў ахвяраў сталінскага тэрору.

Мы спадзяемся, што ў спадара Пазьняка хопіць мудрасці і цярпімасці, каб з нашага звароту зрабіць адпаведныя высновы не дзеля задавальнення асабістых амбіцый, а дзеля супольнай працы па вызваленню нашага народу ад насілля, хамства і хлусні, ад якіх ён вельмі пакутуе на працягу апошніх 200 гадоў (…)».

*Аўтар артыкулу, вядомы журналіст Марат Гаравы, — таксама сябар «Мемарыяла», Грамадскага аргкамітэта па правядзенні Года памяці ахвяраў таталітарызму ў Беларусі і грамадскай ініцыятывы «За ўратаванне мемарыяла «Курапаты».*

## КАНФЛІКТ СВЕТАПОГЛЯДАЎ

Вольга ХВОІН

**Канфлікт Партыі КХП–БНФ з гісторыкам Ігарам Кузняцовым знайшоў абсурдны працяг.**

7 лістапада Ігар Кузняцоў прыехаў у Курапаты і ўбачыў сябраў КХП–БНФ Валера Буйвала і Алеся Чахольскага, калі тыя выносілі парэшткі фундамента ад памятнага знаку польскім афіцэрам.

«Мы нічога не ламалі. Калі мы з Алесем Чахольскім сюды прыйшлі, тут ужо было смецце. Мы яго сабралі ў мяхі і частку адцягнулі на сметнік», — патлумачыў для Радыё «Свабода» Валер Буйвал.

Кузняцоў выклікаў міліцыю. «Яны ўстанавілі новы крыж менавіта на месцы скрадзенага мемарыяльнага знаку афіцэрам польскага войску. Пабачылі нас, схапілі польскі сцяжок з суседняй магілы ды прыладзілі да гэтага крыжа. Я не ведаю, што мне яшчэ каментаваць у гэтай сітуацыі. Не я ж адзін там быў, быў гісторык Раманоўскі са мной, журналісты, — распавядае Ігар Кузняцоў. — З майго боку больш не будзе ацэнак персаналій. Яны кажуць, што прыбіраліся ў Курапатах, але ў міліцэйскім пратаколе зафіксавана, што частка фундамента ляжыць на полі побач з мемарыялам, арматура — у суседнім пахаванні. Напярэдадні я казаў, што ніхто нікому не можа забараніць наведваць пахаванні. І вось такія паводзіны з боку КХП–БНФ».

Сведка інцыдэнту ў Курапатах гісторык Уладзімір Раманоўскі пацвярджае словы Кузняцова: «Я падкрэслю, гэты канфлікт не паміж гісторыкам і КХП–БНФ. Рашэнне ўстанавіць памятны знак было прынятае камітэтам памяці ахвяраў камунізму. Трэба адыйсці ад персаналій. Праблема не ў асобах, а ў ацэнках падыходу да пытання. Гэта канфлікт светапоглядаў. А Кузняцоў стаў быццам громаадводам, ён купіў гэта памятны знак за свае грошы, а я асабіста рабіў падмурак для знака. Таму я б назваў спробу скіраваць віну на Кузняцова як абразу ўсяго камітэта. Ведаеце, калі прадстаўнікоў «Мемарыяла» абзываюць ледзьве не маскальскімі стаўленікамі, то што можна казаць... Яшчэ раз падкрэслю — гэта канфлікт светапоглядаў».

▸ ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# ВОЛЧАК ХОЧА ЗМЯНІЦЬ ЗАКОН

Вольга ХВОІН

**Кіраўніком грамадскага аб'яднання «Прававаая дапамога насельніцтву» (Кіеў, Украіна) Алегам Волчакам занялася падатковая інспекцыя. Раней падобныя пільныя праверкі прайшлі іншыя беларускія праваабаронцы.**



Нагадаем, летась віцэ-прэзідэнта Міжнароднай федэрацыі правоў чалавека, кіраўніка беларускага праваабарончага цэнтру «Вясна» Алеся Бяляцкага асудзілі на 4,5 гады пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці. Цяпер інспекцыя Міністэрства па падатках і зборах Фрунзенскага раёна Мінска запатрабавала ад Алега Волчака прадставіць дэкларацыю аб даходах і маёмасці за дзесяць гадоў.

«З пачатку года ў адносінах да мяне і іншых беларускіх праваабаронцаў ідзе кампанія ўціску, — каментуе ўвагу падатковай да сваёй персоны Алег Волчак. — Цягам гэтага года да мяне прымянялі адміністрацыйныя арышты, была забарона на выезд з краіны, цяпер маем увагу падатковай інспекцыі. Хутчэй за ўсё, праваабаронцы знаходзяцца ў нейкім спісе на распрацоўку».

Алег Волчак гаворыць, што Закон аб дэкларaванні носіць дыскрымінацыйны характар. У Грамадзянскім кодэксе тэрмін пазыўной даўнасці — тры гады, у гэтым жа законе — дзесяць. Ёсць вызначаны спіс асобаў, якія абавязаныя прадстаўляць дэкларацыі штогод, гэта ж мусяць рабіць людзі, якія цягам года рабілі здзелкі куплі-продажу на буйныя сумы. Праваабаронца задаецца пытаннем, на якой падставе падатковая патрабуе дэкларацый ад яго за такі вялікі тэрмін?

«Перад тым, як патрабаваць дэкларацыю, падатковая інспекцыя мусіць патлумачыць мне мае правы. Таму я і прапанаваў падатковай азнаёміць мяне з матэрыяламі справы і паведаміць, хто ініцыяваў гэтую праверку. Гэты закон аб дэкларaванні вельмі жорсткі ў адносінах да грамадзян, да таго ж у ім не прапісаная адказнасць службовых асобаў, якія займаюцца справаю. Я гляджу па водгуках на маю справу — многія грамадзяне нават не ведалі, што дзяржава можа вось так проста запатрабаваць ад іх дэкларацыі за дзесяць гадоў», — гаворыць праваабаронца.

Алег Волчак падкрэслівае, што гатовы задэклараваць свае прыбыткі за апошнія тры гады, але ў выпадку, калі пабачыць абгрунтаванне прэтэнзій да яго. Да таго ж ён мае намер распачаць кампанію перапіскі з дзяржорганам, звярнуцца ў парламент з патрабаваннем пашырыць правы грамадзян, даць права абскарджваць такія рашэнні ды прыбраць тэрмін у 10 гадоў.

Алег Волчак уваходзіць у групу беларускіх экспертаў па мадэрнізацыі судовай сістэмы, праваахоўных органаў у межах праграмы ЕС «Еўрапейскі дыялог аб мадэрнізацыі з Беларуссю». Першапачаткова Еўрапейская камісія прапаноўвала трохбаковую працу — незалежныя эксперты, дзяржорганы, ЕС.

«Мы ўжо падрыхтавалі свае прапановы, але дзяржава пакуль ніяк не адгукнулася і не ўдзельнічае ў праграме, — распавядае Волчак. — Але я мяркую, што дарэмна ўлады ігнаруюць гэтую праграму. Бо ўдзел у ёй дазволіў бы бясплатна атрымаць дапамогу ў мадэрнізацыі, рэфармаванні нашых сістэм кіравання, атрымаць экспертную дапамогу».

Алег Волчак адзначае, што міждзяржаўнае супрацоўніцтва — патрэба часу. «Цяпер злачыннасць мае глабальныя маштабы, і нам трэба ўліваца ў агульную сістэму супрацьдзеяння, а не стаяць на ўзбочыне. Ды і людзі, якія працуюць у праваахоўнай сістэме, мусяць бачыць для сябе перспектывы, магчымасці кар'ернага росту. У адваротным выпадку мы назіраем звычайнае вымыванне кадраў», — рэзюмуе праваабаронца.

ЯК ЖЫВУЦЬ НАШЫ СУСЕДЗІ

# НАЦЫЯНАЛЬНЫ МІФ І ДЭМАКРАТЫЗАЦЫЯ: СЛАВАЦКІ ДОСВЕД

(Працяг тэмы, пачатак глядзі ў №№ 40,41,42)

Аляксей КАРОЛЬ

**Славацкае грамадства (найперш, зразумела, інтэлектуальная эліта) з вялікай увагай вывучае сваю гісторыю. Не толькі каб ведаць мінулае, але ж і каб не памыліцца ў сучаснасці. У гэтым я лішні раз пераканаўся, падчас сустрэчы ў Браціславе з Марцінам Міланам Шымечкам — вядомым славацкім пісьменнікам і публіцыстам. А яшчэ дысідэнтам і сынам дысідэнта Мілана Шымечкі, аднаго з бліжэйшых саратнікаў, а потым дарадцы прэзідэнта Вацлава Гавела. Ён распавёў пра сваё бачанне ролі нацыянальнай ідэі і нацыянальнага міфа як прышчэпкі супраць аўтарытарызму, як складніку дэмакратычных рэформ.**



Марцін Мілан Шымечка на падворку свайго дому

***— Спадар Шымечка, славацкі вопыт дэмакратызацыі цікавы для нас, па-першае, таму што ён паспяховы. Але яшчэ і таму, што на сваім шляху да гэтага поспеху вы здолелі пераадолець дастаткова сур'ёзную пагрозу адкату краіны да аўтарытарнага рэжыму. Гэта быў перыяд так званага меч'ярызму — ад імя тагачаснага прэм'ер-міністра Уладзіміра Меч'яра. Яго нават называлі «Лукашэнкам на Дунаі».***

— Пасля раздзялення Чэхаславакіі на дзве самастойныя суверэнныя дзяржавы, сапраўды, Славакія перажыла вельмі складаны перыяд. Шэсць гадоў у нас адбываўся бой за будучыню Славакіі. Прычым даволі моцна ўплывала Расія, паколькі выбар стаяў паміж Усходам і Захадам. І вынік гэтай барацьбы не быў прадвызначаны, не было ясна, у які бок пойдзе Славакія.

***— Да якога моманту сітуацыя не была яснай, і на чым адбыўся пералом да прозаходняга выбару?***

— У 1998 годзе мы гэты бой выйгралі. Спрошчана кажучы, раздзел Чэхаславакіі быў перамогай нацыяналістаў. Адыграў сваю ролю і той фактар, што славакі былі вельмі расчараваныя пераменамі эканамічнай сітуацыі, пры гэтым яны страцілі ўсё звыклае, што давала ім упэўненасць у жыцці. Адзінае, што яны ведалі, што яны славакі. Гэта ўзаеманакладалася з постсацыялістычным папулізмам. Сітуацыя не была такой жа, як у Беларусі пры Лукашэнку, але тэндэнцыі былі вельмі падобныя. Былі спробы забараніць некаторыя палітычныя партыі. Быў вельмі моцны ціск на журналістаў, на СМІ.

Наступная фаза — Меч'яр зразумеў, што яго рэжым, такі, які ёсць, ніхто ні ў Еўропе, ні ў Амерыцы не прыме. Еўрасаюз абсалютна ясна даў зразумець, што з такім палітычным рэжымам Славакія ў ЕС не трапіць. Меч'яр паспрабаваў падмяніць ідэю ўступлення Славакіі ў Еўрасаюз ідэяй Славакіі як мосту паміж Захадам і Усходам. Але менавіта гэта ідэя моцна насцярожыла славакаў, яны пачалі вельмі баяцца за сваю будучыню. Палітыкі Заходу праз СМІ сталі крытыкаваць рэжым Меч'яра. Той спрабаваў (падобна, як і Лукашэнка) пераканаць людзей, што гэта крытыка нічога не вартая. Але славакі на лязе самой сутычкі зразумелі галоўнае — гульня ідзе сур'ёзная, у якой вырашаецца іх лёс на наступныя дзесяцігоддзі.

***— Гэта настроі людзей, а што апазіцыя?***

— Гэта другі прынцыпова важны момант — славацкая апазіцыя, якая сфармавалася, вырасла з антыкамуністычнай барацьбы, здолела аб'яднацца. Не адразу, але менавіта ў гэты адказны час з 1994 па 1996 год. Сышліся тры фактары. Першы — гэта СМІ, якія ціснулі на апазіцыю, каб яна аб'ядналася. Другі — паход у народ сотняў грамадскіх актывістаў, якія ездзілі па Славакіі, сустракаліся з людзьмі, тлумачылі ім сітуацыю ў краіне. Трэці — палітыкі, палітычныя партыі.

***— Інакш кажучы, Меч'яру не ўдалося схіліць сімпатыі насельніцтва ад канцэпцыі «Славакія — сябра Еўрасаюза» да ідэі «Славакія — мост паміж Захадам і Усходам», гэтак сама, як і абмежаваць свабоду слова, паставіць пад кантроль СМІ і нейтралізаваць арганізаваную палітычную апазіцыю. Чаму? Якімі былі суадносіны палітычных сіл? Як разгортвалася барацьба?***

— Перад 1998 годам Меч'яру ўдалося правесці праз парламент закон, згодна з якім партыям было забаронена ствараць перадвыбарныя кааліцыі. Акрамя таго, для партый быў падвышаны прахадны бар'ер у парламент да 10 працэнтаў, па сутнасці непераадольны для іх, на той час малалікіх і раздробленых. Але партыям удалося знайсці адзіна правільны адказ: пяць найбольш уплывовых партый здолелі дамовіцца і аб'яднацца з фармальнага гледзішча ў адну партыю пад назвай «Славацкая дэмакратычная кааліцыя». Спікерам партыі выбралі Мікулаша Дзурынду, які потым стаў і прэм'ерам. Гэта быў складаны і цяжкі для рознакаляровых партый і для іх лідараў з іх амбіцыямі працэс. Але верх узяла адказнасць. І хаця Меч'яр усё ж выйграў парламенцкія выбары, але аб'яднаная апазіцыя — другая па колькасці месцаў — па сутнасці спыніла яго марш да аўтарытарнага рэжыму. Галоўны лозунг апазіцыі, з якім яна ішла на выбары, быў: «Мы прывядзем Славакію ў Еўропу!»

***— Няўжо гэтага лозунгу хапіла? Няўжо ідэя ўваходжання ў Еўрасаюз пераважвала ў масавай свядомасці, адпавядала настроям большасці насельніцтва?***

— Я даволі скептычна стаўлюся да ідэі, што выбары можна выйграць выключна пад лозунгамі дэмакратыі. У дадзеным выпадку быў прадэманстраваны ясны геапалітычны выбар, які гарантаваў краіне эканамічны рост, а значыць, і дабрабыт. Гэта стала стымулам.

***— А контртэза пра пераважную арыентацыю на Усход, на Расію, у адказ не прагучала?***

— Ельцын адкрыта падтрымаў Меч'яра і сказаў, што ён бы хацеў, каб выбралі менавіта яго. Аднак Меч'яр ніколі адкрыта не казаў, што ён хацеў бы прывесці Славакію пад патранат Расіі. Але па характару і сутнасці дэбатаў, якія тады адбываліся, для ўсіх было зразумела, што гаворка ідзе пра выбар паміж Захадам і Расіяй.

***— Наколькі на той час моцнымі былі ў грамадстве прарасійскія настроі ў параўнанні з сённяшнімі?***

— Славакія на той час была вельмі энергазалежная ад Расіі. Нават вугаль вазілі з Расіі. Тут дзейнічаў і адзін банк, фармальна чыста славацкі, які, аднак, на справе з'яўляўся адначасова і своеасаблівым цэнтрам расійскага ўплыву. Гэта даследавалі журналісты. У 1990-я гады расійская стратэгія базіравалася на тым, што старую сістэму еўрапейскай бяспекі трэба замяніць на новую, апорай якой замест NATO павінна стаць АБСЕ. У гэтай арганізацыі Расія мела значны ўплыў, і праз яе разлічвала пашырыць свой уплыў на Еўропу. Захад не падтрымаў расійскую канцэпцыю. Можна ўявіць, якім моцным быў уплыў Расіі, калі Славакія падпісала з Расіяй дамову, што была крокам да прыняцця новай канфігурацыі. На сённяшні дзень адносіны да Расіі спакойныя, дзелавыя і добразычлівыя. Але і не болей. На шчасце, Славакія геаграфічна далёкая ад Расіі і знаходзіцца па-за рамкамі імперскіх памкненняў пэўных расійскіх палітыкаў.

Меч'яр спрабаваў забараніць вяшчанне радыё «Свабодная Еўропа» на Славакію. Вельмі крытычны момант, бо тады яшчэ не было незалежнага тэлебачання, а дзяржаўнае ён ужо кантраляваў. Не атрымалася. Супраціў дэмакратычных сіл гэтым намерам, пратэст грамадскасці былі вельмі моцнымі. Важным для станаўлення дэмакратычных інстытуцый была падтрымка Захадам грамадзянскіх актывістаў.

***— На якія слаі насельніцтва абапіраўся Меч'яр?***

— Дэмакратычная, скажам так, рэвалюцыя ў Славакіі мела не толькі тых, хто ад яе выйграў, але і тых, хто прайграў. Дырэктараты так званых «горадаўтваральных» фабрык і заводаў, адбудаваных у камуністычныя часы, з'яўляліся аднымі з самых пераканаых прыхільнікаў Меч'яра. Яны найперш, але і працаўнікі гэтых прадпрыемстваў, баяліся перамен. Цікавым падаецца і пэўнае геаграфічнае супадзенне: рэгіёны, якія пераважна галасавалі за Меч'яра, якраз уваходзілі ў Славакію на чале з Ёзэфам Ціса — кіраўніком марыянеткавай дзяржавы, утваранай па ініцыятыве Гітлера пасля Мюнхенскай змовы ў 1938 годзе. Своеасаблівае рэха таталітарнай традыцыі і псіхалагічнай тугі па моцнай руцэ. Гэта даволі бедныя рэгіёны сярэдняй Славакіі.

***— Наколькі я вас зразумеў, нацыянальная ідэя ў спалучэнні з ідэяй уваходжання ў Еўропу былі менавіта тымі ідэямі, якія і забяспечылі перамогу дэмакратычных пераўтварэнняў у Славакіі?***

— Я ўважліва назіраю за развіццём краін Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, адзначаю шмат падабенства, і прыходжу да высновы, што самым важным фактарам перамог з'яўляецца нацыянальны міф. Нацыянальны міф славакаў грунтуецца на ідэі, што нам як народу трэба выжыць. Але мы не можам выжыць самастойна як незалежная дзяржава, бо мы невялікі народ, невялікая краіна. Нам трэба быць у саюзе з нейкай моцнай дзяржавай. У дадзеным выпадку славакі абралі Еўрасаюз як моцнае міждзяржаўнае ўтварэнне, да якога можна прытуліцца і выжыць. І якое да таго ж не пагражае ім стратай суверэнітэту, дае магчымасць свабоднага развіцця. Не абірае, а дапамагае. Адзначыў бы і яшчэ адзін рашаючы фактар у цывілізацыйным самавызначэнні славакаў — каталіцызм, праз які яны былі часткай Захаду. Гэта адчуванне даволі моцнае ў менталітэце народа, насуперак усім гістарычным перыпетыям. Хаця можна сабе ўявіць, што калі б не было моцнага Еўрасаюза, славакі маглі б далучыцца і да Расіі. Такія ідэі ў гісторыі Славакіі выказваліся.

***— Як трансфармаваўся нацыянальны міф?***

— Славакія сёння з'яўляецца адным з самых лаяльных сябраў Еўрасаюза. Афіцыйная пазіцыя, якая публічна агучваецца, што нават калі ў нас не атрымаецца быць на адным узроўні, напрыклад, з Заходняй Еўропай, мы ўсё роўна мусім быць разам. І гэта сутнасць нацыянальнага міфа, укаранёнага ў гісторыю. Вельмі важная, асабліва ў параўнанні з еўраскептычнымі пазіцыямі некаторых краін, напрыклад, Венгры, у якой іншы гістарычны, ад імперыі, нацыянальны міф.

***— А калі гісторыя на працягу стагоддзяў скажалася, руйнавалася, гістарычная памяць вынішчалася, як быць?***

— Калі міфа няма, яго трэба стварыць. Я быў у асяродку чэхаславацкіх дысідэнтаў. Яны часта збіраліся ўвечары, разважалі і дыскутавалі, што ім трэба рабіць, як рабіць. Што мы ўвогуле за краіна, куды, у якім накірунку нам ісці. І часта заходзілі ў тупік. У тым і палягае бяда: ва ўмовах таталітарызму, камунізму, вельмі цяжка разглядзець, зразумець ментальнасць свайго народа. Праблема, якая наноў узнікла ў нас падчас меч'ярызму. І якая існуе, напэўна, сёння ў вас — у Беларусі пад Лукашэнкам. Адна з ілюзій славацкіх дэмакратычных рэфарматараў была вера ва ўсёмагутнасць ідэй і каштоўнасцей дэмакратыі для перамогі над таталітарызмам. І не распазналі, не ўлічылі менталітэт народа. І заплацілі за гэта гадамі меч'ярызму. Вынікам гэтай памылкі сталася тое, што ў той час, як яны гаварылі толькі пра дэмакратыю, Меч'яр як бы спраецыраваў на сябе ўвасабленне гэтага самага міфа. Увасабленне сапраўднага славака. Трэба даць зразумець людзям, што вы разумееце і іх душу, і чаго яны хочуць.

Праблема нашых народаў — беларускага і славацкага — якраз у тым, што гэты вобраз нацыянальнага міфа невідавочны. У вас, як вы сказалі, глыбока схаваны пад заваламі хлусні і біспамяцтва. Яго трэба дастаць, аднавіць, ажывіць. Стварыць.

## 18 ЛІСТАПАДА, НЯДЗЕЛЯ

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.35** Камедыя «Тыя, што не паддаюцца» (СССР).
**07.55** Дакументальны серыял «Майстар вандраванняў» (ЗША).
**08.30** Медычныя таямніцы.
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.40** Нашы.
**09.50** Камедыйны дэтэктыў «Участак» (Расія).
**11.00** «Дажынкі ў Горках». Дакументальны фільм (Белтэлерадыёкампанія).
**11.30** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**12.10** Evrovision. Вынікі тыдня.
**12.30** Культурныя людзі +.
**13.10** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда» (Украіна).
**14.15** Клуб рэдактараў.
**15.10** Рэгіянальная праграма.
**15.35** Камедыйная меладрама «Сняданак у Тыфані» (ЗША).
**17.45** Заўтра - гэта мы!
**18.20** Каробка перадач.
**18.50** Трылер «Сведка» (ЗША).
**21.00** У цэнтры ўвагі.
**21.55** Журналісцкае расследаванне.
**22.30** Камедыя «Маладыя» (ЗША).
**00.15** Камедыйны дэтэктыў «Участак» (Расія).

### Н

**07.00** «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь.
**09.20** «Смешарыкі».
**09.35** «Шалапутныя нататкі» са Зміцерам Крыловым.
**09.55** Пакуль усе дома.
**10.50** «Фазэнда».
**11.25** АНТ прадстаўляе: «Брэйн-рынг».
**12.25** Прэм'ера. «Першае каханне».
**13.20** Да юбілею Эльдара Разанава. «Беражыся аўтамабіля».
**15.00** Прэм'ера. «Эльдар Разанаў. Маёй душы супакою няма».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Ашуканцы».
**17.20** «Народная медыцына».
**18.20** АНТ прадстаўляе: «Песні маёй краіны».
**20.00** Контуры.
**21.05** Да дня нараджэння «КВЗ».
**23.35** «Насця». Вячэрняе шоў.
**00.355**«Дзе знаходзіцца нафелет?».

### СТВ

**06.15** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**07.10** «Салдаты. Дзембель непазбежны». Серыял.
**09.00** «Аўтапанарама».
**09.30** «Жыць будзеце».
**09.55** «100 адсоткаў».
**10.25** «Вялікі сняданак».
**11.05** «Кіно»: «бандыты». ЗША, 2001 г.
**13.30** «Добры дзень, доктар».
**14.05** «Зямля Саннікава». СССР, 1973 г.
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Рэпарцёрскія гісторыі».
**17.20** Канцэрт Міхаіла Задорнава.
**19.00** «Аўтапанарама».
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.40** «Каханне: інструкцыя па ўжыванні». Італія, 2011 г.
**23.00** «Глядзець усім!».
**23.50** «Арт-хаўс»:»Я аб'яўляю вайну». Францыя, 2011 г.

### 2 БЕЛАРУСЬ

**08.05** Таямніца душы.
**08.30** Мультфільмы.
**09.45** Тэлебарометр.
**09.50** Пазакласная гадзіна.
**10.05** Альбарутэнія.
**10.40** Вышэй за дах.
**11.15** Школа рамонту.
**12.25** Шоў «Суперінтуіцыя».
**13.35** Пра мастацтва.
**14.00** Рамантычная драма «Мой ласкавы і пяшчотны звер» (СССР).
**16.15** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА.
**16.50** Хакей. КХЛ. Прамая трансляцыя.
**19.15** Суперлата.
**20.00** Спорт-кадр.
**21.00** Спортлата 5 з 36.
**21.05** КЕНО.
**21.10** Навіны надвор'я.
**21.45** Фантастычны баявік «Чалавек, што бяжыць» (ЗША).
**23.40** Шоў «Суперінтуіцыя».
**00.35** «Імперыя песні». Музычна-забаўляльнае караоке- шоў.

### РОССИЯ ТЕЛЕКАНАЛ

**07.00** «Трава пад снегам» (2010 г.).
**10.15** «Сам сабе рэжысёр».
**11.00** Весці.
**11.15** «Смехапанарама Яўгенія Петрасяна».
**11.45** «У свеце жывёл».
**12.15** «Каханне і расстанне».
**14.00** Весці.
**14.15** «Улада факту».
**15.05** «Гарадок». Дайджэст. Забаўляльная праграма.
**15.35** «Гэта я і музыка.».
**16.30** «Старыя сцены».
**18.20** «Смяяцца дазваляецца». Гумарыстычная праграма.
**20.00** Весці тыдні.
**21.25** «Маша» (2012 г.).
**23.20** «Нядзельны вечар з Уладзімірам Салаўёвым».

### НТВ

**06.20** Дэтэктыўны серыял «Мужы».
**08.00** Сёння.
**08.20** «Першая перадача». Аўтамабільная праграма.
**08.50** «Іх норавы».
**09.25** «Ядзім дома!».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Паедзем, паядзім!».
**10.55** «Дачны адказ».
**12.00** «Ежа без правіл».
**13.00** Сёння.
**13.15** Мастацкі фільм «Ты мне снішся».
**15.00** «Вяселле ў падарунак!».
**16.00** Сёння.
**16.20** «Развод па-руску».
**17.10** «І зноў добры дзень!».
**18.10** «Бывае ж такое!».
**18.30** Надзвычайнае здарэнне. Агляд за тыдзень.
**19.00** «Сёння. Выніковая праграма».
**19.55** «Чыстасардэчнае прызнанне».
**20.45** «Цэнтральнае тэлебачанне. Інфармацыйна-забаўляльны нядзельны канал».
**23.00** «Венік». Ток-шоў.
**23.55** «Казак».
**01.30** «Школа зласлоўя». Ток-шоў.

### EUROSPORT

**06.00, 00.45** Аўтаспорт. WTCC.Раўнд 23.
**07.00, 01.15** Аўтаспорт. WTCC.Раўнд 24.
**10.30** Снукер. Еўрапейскі тур. Балгарыя. Дзень 2.
**11.00** Снукер. Еўрапейскі тур. Балгарыя. Дзень 3.
**13.00** Вось дык так!!!
**14.00** Снукер. Еўрапейскі тур. Балгарыя. 1/4 фіналу.
**15.30** Футзала. Кубак свету. Тайланд. Фінал.
**17.00** Снукер. Еўрапейскі тур. Балгарыя. 1/2 фіналу.
**19.00** Фігурнае катанне. Гран-пры. Францыя.
**21.00, 02.00** Снукер. Еўрапейскі тур. Балгарыя. Фінал.
**23.00** Бокс. Германія. Эрнандэс - Рос.
**01.45, 03.15** Матаспартыўны уікэнд. Часопіс.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Аб'ектыў.
**07.15** Казкі для дзетак: «Аблавушак», «Матыльда», «Мядзведзік Фантазік».
**07.50** «Школа на санцапёку», серыял: 25 серыя.
**08.15** «Таямніца Сагалі», серыял: 7 серыя.
**08.40** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**09.05** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**09.35** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.00** «Пераемнікі», дакументальна-публіцыстычны цыкл.
**10.15** «Апантаныя-2», дак. цыкл: «Мы назіраем».
**10.30** Асабісты капітал (эканамічная праграма).
**10.45** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**11.10** Навігатар (інфармацыйна-публіцыстычны тэлечасопіс).
**11.25** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**11.50** Казкі для дзетак: «Аблавушак», «Матыльда», «Мядзведзік Фантазік».
**12.20** «Таямніца Сагалі», серыял: 8 серыя.
**12.45** «Каралева аблокаў», маст. фільм, 2003 г., Польшча.
**14.00** «Глыбокая вада», серыял: 10 серыя.
**14.45** «Дзень, калі памёр Тыто», дак. фільм, 2009 г., Сербія.
**15.35** Назад у будучыню (гістарычная праграма).
**15.45** «Выбары без выбару», рэпартаж, 2012 г., Беларусь.
**16.10** «Таемнасці», маст. фільм, 2007 г., Чэхія–Славакія.
**17.45** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**18.10** Два на два (тэледыскусія).
**18.35** Калыханка для самых маленькіх: «Мядзведзік Фантазік».
**18.50** «Сенсацыі XX стагоддзя», серыял: «Аперацыя «Адэса»»: ч. 1.
**19.40** Прэс-экспрэс (агляд медыяў).
**19.55** Дакументальная гадзіна: «Лікёра-гарэлачны завод», дак. фільм, 2010 г., Швецыя.
**21.00** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**21.25** Эксперт (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**22.00** Форум (ток-шоу).
**22.50** Фільматэка майстроў: «Фаду», дак.-музычны фільм, 2007 г., Партугалія.
**00.15** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**00.40** Прэс-экспрэс (агляд медыяў).
**01.00** «Бульбаны», мультсерыял.

## Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма набыць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час» і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, аформіўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). Нашы рэквізіты: **рахунак 3012741108019 у аддзяленні №539 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

Акрамя таго падпісацца можна ў офісе і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:

Гомель: (8 029) 697 82 75 Аляксандр;
Мінск: (8029) 178 31 68 Вольга;
Бабруйск: (8029) 628 75 01 Вольга;
Слуцк: (8044) 755 66 48 Марына.

БЕЛПОЧТА

ф. ПС 112

ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
(почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ
(почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ______________
Время приема _______ ч. _____ мин.
Подпись

## Паважаныя чытачы!

Кошт аднаго нумара газеты да 1200 руб., аднаго месяца — 4800 руб. Дзякуй вам за разуменне і падтрымку!

Запрашаем да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.

**Даведка па тэл. (8 029) 651 21 12.**

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739

УНП* 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | |
| | | | | |

Плательщик

Пеня ________
Всего ________

Кассир

ВЫБАРЫ

# ВАРАЖБА НА ВЫБАРАХ

Алег НОВІКАЎ

**Аказваецца, каб ведаць прозвішча наступнага прэзідэнта ЗША, не трэба чакаць вынікаў заакіянскай выбарчай камісіі. За 200 гадоў узнікла цэлая сістэма ірацыянальных прыкмет, якія дазваляюць вылічыць, хто стане гаспадаром Белага дому.**



Так, у сярэдзіне пазамінулага стагоддзя шматлікія амерыканцы лічылі, што ў палітыку нельга ісці чалавеку, чыё прозвішча складаецца з трох словаў (напрыклад, Марцін ван Бюрэн). Глебай для такога міфу стаў той факт, што тройчы людзі з такімі складанымі прозвішчамі не здолелі абрацца на пасаду прэзідэнта.

Але, напэўна, самая вядомая прыкмета звязаная з клубам «Washington Redskins» (англ.: «Чырванаскурыя з Вашынгтону»). У амерыканскім палітычным лексіконе нават існуе выраз «Redskins rule» («Правіла чырванаскурых»). Правіла простае: калі згаданы клуб перамагае на сваім полі ў апошнім матчы перад днём галасавання, цяперашні прэзідэнт (або іншы прадстаўнік правячай партыі) будзе фармаваць дзяржаўную адміністрацыю. Калі клуб прайграе, апазіцыя можа загадзя замаўляць шампанскае і святкаваць перамогу.

Часам гэта сапраўды нагадвае фантастыку. Так, у 1976 годзе «Washington Redskins» за ўвесь сезон перад матчам, які быў прызначаны напярэдадні выбараў, прайгралі толькі адну гульню ў родных сценах. Букмекеры адназначна прагназавалі, што і ў чарговым матчы перамогу будуць святкаваць «чырванаскурыя». Аднак у выніку яны ўмудрыліся прайграць — і праз некалькі дзён дзеючы прэзідэнт Форд прайграў выбары дэмакрату Картэру. Праўда, адзін пракол у гэтым правілы быў. У 2004 годзе, нягледзячы на паразу «чырванаскурых», Джордж Буш-малодшы пераабраўся на пасаду амерыканскага гаранта.

Палітолагі шукаюць сакрэт таго, што адбываецца, і нават прыдумалі своеасаблівую тэорыю пра нябачную сувязь паміж гульцамі на полі і настроем на трыбунах. Ідэя простая: калі ў краіне ўсё добра, то і балельшчыкі ў пазітыўным тонусе, які перадаецца спартовым улюбёнцам. Пры адваротным раскладзе яны нервуюцца, і, адпаведна, іх каманда атрымлівае негатыўны эмацыйны зарад, што адлюстроўваецца на табло.

Наступнае прадказанне тычыцца параўнання колькасці прададзеных масак прэзідэнта і яго суперніка падчас святкавання Дня ўсіх святых. Тут усё проста — індыкатарам фаварыта ёсць колькасная перавага продажаў. Калі верыць салідінаму агенцтву CNN, варажба на масках дае правільныя вынікі пачынаючы з выбараў 1980 года. Раней, на жаль, да гэтай методыкі сур'ёзна не ставіліся.

Не менш забаўнае і наступная прадказанне. Гаворка пра вынікі так званага «галасавання дзяцей» — Kid Vote. Цяжка сказаць, хто прыдумаў, каб школьнікі (якія, зразумела, не маюць права голасу) таксама абіралі прэзідэнта. Аднак у выніку мы маем сенсацыйныя дадзеныя: у 15 з 17 апошніх выбараў дзеці правільна прадказвалі канчатковы вынік дарослых выбараў. Пры гэтым яны ў большасці прызнаюць: галоўным фактарам, каб падтрымаць таго ці іншага палітыка, ёсць яго падабенства да нейкага папулярнага мультыплікацыйнага героя. Другі па папулярнасці матыў — падабенства кандыдата да дзядулі. У 2012 годзе па выніках школьных выбараў, вынікі якіх апублікавалі за тыдзень да 6 лістапада, Абама перамог Міта Ромні.

Варта згадаць і пра прадказанне з дапамогай акругі Віга, што ў штаце Індыяна. Як вядома, па сутнасці большасць штатаў галасуюць традыцыйна. Тэхас і Поўдзень заўсёды галасуюць за рэспубліканцаў, а Каліфорнія — за дэмакратаў. Інтрыга назіраецца толькі ў прыкладна 12 штатах, дзе вынікі няпэўныя. Таму сапраўдны знавец амерыканскай палітыкі будзе адсочваць дадзеныя экзіт-полаў менавіта ў гэтых штатах. А самы лепшы знавец сканцэнтруе ўвагу на апытаннях у акрузе Віга. Тубыльцы заўсёды галасуюць так, як галасуе ўся краіна. Пачынаючы з 1956 года, кандыдат, які перамог у гэтай акрузе, абавязкова станавіўся прэзідэнтам ЗША. Аказваецца, менавіта ў Віга жыве больш за ўсё людзей, якія маюць сярэднестатыстычную вагу цела грамадзяніна ЗША. Адказ на пытанне, якім чынам вага цела звязаная з мастацтвам прадказваць вынікі выбараў, навуцы пакуль не вядомы.

Яшчэ адзін папулярны метад загадзя высвеtліць вынікі выбараў — зазірнуць у каляндар алімпійскіх гульняў, якія, як і выбары прэзідэнта ЗША, адбываюцца ў той самы год. І пры гэтым існуе цікавае супадзенне: калі Алімпіяда праходзіць у горадзе, які раней ужо прымаў гульні, то на выбарах у ЗША перамагае кандыдат ад кіроўнай партыі. Гэты прынцып спрацаваў 12 разоў і толькі аднойчы даў асечку. Паколькі Алімпіяда ў 2012 годзе прайшла ў Лондане, які раней ужо двойчы прымаў гульні, усё казала пра перамогу дэмакратаў. Аднак рэспубліканцам, магчыма, таксама хутка пашанцуе. Арганізатар наступных алімпійскіх спаборніцтваў — Бразілія, дзе Алімпіяду ніколі не прымалі. Такім чынам, у партыі «сланоў» папросту фантастычныя шансы ў 2016 годзе зноў аформіць прапіску ў Белым доме.

Не менш загадкавая сувязь існуе паміж выбарамі і «Оскрам» — галоўнай узнагародай Амерыканскай кінаакадэміі. Формула прадказання наступная. У год выбараў узгадайце, які фільм атрымаў статуэтку летась, і пасля ўзгадайце яго фабулу. Калі стужка заканчваецца хэпі-эндам (злачынцу садзяць у турму або любоў перамагае ўсе перашкоды) — смела прагназуйце перамогу кандыдата ад партыі, якая цяпер пры ўладзе. Калі фінал карціны не аптымістычны (гангстэр застаецца на свабодзе, а любоў заканчваецца драматычна), можна адразу пабіцца аб заклад хоць на тысячу долараў, што пераможа апазіцыя.

Класічным прыкладам з'яўляюцца выбары 1976 года. За год да гэтага «Оскара» атрымаў фільм «Пралятаючы над гняздом зязюлі». Хэпі-энда ў фільме няма. З такой канцоўкай вынікі дуэлі кандыдатаў Форд — Картэр можна было лёгка прадказаць. У 1979 годзе «Оскар» дастаўся фільму «Крамер супраць Крамера» пра адзінокага бацьку, які вымушаны заняцца выхаваннем сына. Драматычная меланхалічная гісторыя не пакінула ніякіх шансаў дэмакратам на выбарах наступнага года.

У 1991 годзе (на той час пры ўладзе былі рэспубліканцы) трыумфуе «Маўчанне ягнят» — кіно пра канібала, які лёгка падманвае федэральных дэтэктываў. Так кінаакадэмікі, лічы, забяспечылі перамогу дэмакрата Біла Клінтана на выбарах 1992-га. «Оскара» 2011 года атрымаў «Артыст» — кінааповесць пра актора нямога кіно, які ўсе губляе з прыходам на экран гуку. Аднак дзякуючы каханню ён з фурорам вяртаецца на сцэну. Хэпі-энд стужкі прадказаў, што праз год выбары выйграе Абама.

Гэта далёка не ўсе забабоны наконт выбараў амерыканскага прэзідэнта. Яшчэ іх вынікі можна прадказваць па курсу Доу-Джонса на сярэдзіну жніўня ў год выбараў, па выніках фінальнай гульні лепшых каманд амерыканскіх футбольных ліг і і г.д. Усё гэта сведчыць не толькі пра тое, што ў свядомасці сучаснага чалавека засталося шмат перажыткаў архаічных часоў, калі ён тлумачыў усе працэсы праз тэорыю супрацьстаяння злых і добрых духаў. Такая колькасць міфаў, легенд і забабонаў сведчыць, што амерыканскія выбары — гэта сапраўды значная для кожнага амерыканца падзея.

## ЯНЫ ПРА НАС: ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Тое, што выявілася ў спорце, — тыпова з'ява для ўсіх галін. Чыноўнікі і «чырвоныя» дырэктары атрымліваюць маленькія зарплаты, але пры гэтым будуюць шыкоўныя асабнякі. Прадпрыемствы плацяць велізарныя падаткі, якія потым размяркоўваюцца на рэалізацыю дзяржаўных праектаў і ў вялікай колькасці пераходзяць у кішэні чыноўнікаў. Раз-пораз замежныя інвестары «гучна грукаюць дзвярамі», прызнаючыся, што стаміліся даваць хабары, а колькасць «карупцыйных» спраў расце што ні дзень. Пра апетыты мінскіх чыноўнікаў красамоўна кажа факт затрымання намесніка мэра Мінска Ігара Васільева. Ён вымагаў хабар памерам у 500 тысяч долараў у патэнцыйнага еўрапейскага інвестара за арганізацыю магчымасці працаваць у сталіцы.

**«Независимая газета» (Расія)**

Аляксандру Рыгоравічу моцна не спадабаліся сяброўскія танкі ў Грузіі, і з гадамі ён не змяніў свайго стаўлення да гэтай вайны. Як не спадабалася яму чарговая рэвалюцыя ў Кыргызстане, арганізаваная, па яго меркаванні, расійскім кіраўніцтвам. Ён наогул супраць войнаў, рэвалюцый і замахаў на тэрытарыяльную цэласнасць, асабліва ў рамках СНД, але не ў сілу пацыфісцкіх перакананняў, а таму, што бачыць у іх пагрозу асабістай уладзе. Гэта можна лічыць паранояй, але можна і дзяржаўнай мудрасцю. Дзяржаўная мудрасць, злучаная з паранояй, з'яўляецца гарантыяй палітычнага выжывання беларускага лідара.

**«Грани» (Расія)**

Беларусь зусім развярнулася ў бок пуцінскіх еўразійскіх праектаў, якія яшчэ больш аддалілі яе ад еўрапейскай інтэграцыі. Будучы ў фарватэры расійскай знешняй палітыкі і замежнапалітычнай самаізаляцыі, афіцыйны Мінск стаў саўдзельнікам расколу паміж Расіяй і астатняй Еўропай, што сёння паглыбляецца.

**«Delfi» (Літва)**

Відавочна, на такія сур'ёзныя папулісцкія заявы (экспарцёры беларускай прадукцыі будуць у абавязковым парадку здаваць усю атрыманую валютную выручку ў бюджэт) беларускі лідар пайшоў толькі па адной простай прычыне: у бюджэце — вялікая дзірка, а рэжым, заснаваны на народнай любові і больш ні на чым іншым, вельмі чула рэагуе на змены грамадскага настрою. Улада Лукашэнкі, якая шмат каму за мяжой уяўляецца неразбуральным маналітам, можа захістацца ўжо ў наступным годзе, калі рэжым не вырашыць пытанне з забеспячэннем насельніцтва валютай.

**«Эксперт» (Украіна)**

Рашэнне беларускіх уладаў — забараніць установку мемарыяльнай дошкі ў гонар заснавальнікаў Украінскай паўстанцкай арміі (УПА) — выклікала адмоўную рэакцыю ў былых ваяроў УПА. У Беларускім цэнтры ва Украіне прытрымліваюцца крыху іншага меркавання. Справа не ва УПА — шматлікія жыхары Брэста зусім не ведаюць, што гэта такое. Справа ў тым, што Аляксандр Лукашэнка баіцца ўсяго, што ідзе супраць яго лініі. Усё роўна, што гэта — мітынгі апазіцыі, выбары ці памятная дошка, прысвечаная ўкраінскім паўстанцам.

**«Камерсант» (Украіна)**

Цікава, што ў рэспубліцы вельмі развіты бейсбол. У брэсцкай гасцініцы па суседстве з намі жыла каманда з Магілёва, якая прыехала ці то на зборы, ці то на спаборніцтвы па гэтым відзе спорту. Можна доўга распавядаць пра Рэспубліку Беларусь, але лепш убачыць сваімі вачамі. Задаю сабе пытанне: хацеў бы я жыць у Беларусі? Хутчэй так, чым не. Вельмі стаміўся без чысціні і парадку. Ды і забытыя словы «таварыш», «выканкам», «райкам» і іншыя, якім на змену ў нас прыйшлі нязграбныя «спадар», «муніцыпалітэт», «дэпартамент», прываблівають сваёй безабароннасцю і настальгіяй! І ўсё ж — Радзіму не выбіраюць!

**«Ставропольская правда» (Расія)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### КАЗАХСТАН. ЖАНААЗЕН ПЕРАЙМЯНУЮЦЬ

Такое ўражанне, што ўлады Казахстана вырашылі цалкам замесці сляды злачынства ў Жанаазене ў снежні мінулага года. Гэты горад стаў шырока вядомы за межамі Казахстана пасля таго, як улады ўжылі агнястрэльную зброю для спынення страйку нафтавікоў. У Жанаазене загінулі 17 чалавек і звыш ста былі паранены. І вось цяпер, напярэдадні гадавіны той трагедыі, у Астане нечакана ўзнікла ідэя перайменаваць горад. 27 кастрычніка з такой ініцыятывай выступілі мясцовыя аксакалы. Яны лічаць, што горад лепш называць Бекет-ата. Так называецца тутэйшая старажытная мячэць — гістарычны помнік і месца паломніцтва. Па легендах, у XVIII стагоддзі ў горадзе жыў вяшчун і багаслоў Бекет-ата. Улады ідэю падтрымалі, паколькі новая назва горада, на іх думку, «дадаткова паўплывае на духоўны рост гарадской моладзі». На думку ж грамадскасці, прапанова мае пад сабой палітычную падаплёку. У Казахстане шмат гарадоў, дзе калісьці жылі вядомыя святары. Аднак у іх гонар ніхто гарады не называе.

**Паводле казахскай прэсы**

### ПОЛЬШЧА. ЗАГАДКА СМЕРЦІ ЛЕПЕРА



На мінулым тыдні польская пракуратура апублікавала вынікі следства па загадкавай смерці Анджэя Лепера, кіраўніка левай папулісцкай партыі «Самаабарона». Яго знайшлі павешаным у партыйным офісе ў жніўні 2011 года. На думку следчых пракуратуры, усё ўказвае на тое, што Лепер сам вырашыў звесці рахункі з жыццём. Аднак бліжэйшае атачэнне Лепера працягвае прытрымлівацца версіі пра тое, што іх лідара забілі. Так, напрыклад, былая дэпутатка Сандра Левандроўска ўзгадвае, што Лепер быў фанатычным вернікам, а каталіцызм катэгарычна забараняе самагубства. Таксама палітык звяртае ўвагу на тое, што эксперты прыбылі на месца здарэння праз некалькі дзён пасля таго, як знайшлі труп. Адным словам, справа цёмная.

**Паводле польскай прэсы**

### ВЯЛІКАБРЫТАНІЯ. НЕЖАЛЕЗНАЯ МАМА



Аказваецца, брытанскі прэм'ерміністр Маргарэт Тэтчэр была «Жалезнай лэдзі» толькі на працы. Бары Стрэвенс, які праслужыў у яе целаахоўнікам 20 гадоў, распавёў у інтэрв'ю газеце «The Sun», што прэм'ер-міністр ставілася да сваіх ахоўнікаў літаральна з матчыным клопатам. Стрэвенс кажа, што першапачаткова, калі ён даведаўся, на каго будзе працаваць, яму стала кепска. Аднак пазней ён зразумеў, наколькі ён памыліўся ў стаўленні да Тэтчэр. Целаахоўнік апісаў, з якой турботай прэм'ер-міністр мітусілася вакол яго, пасля таго, як ён патрапіў у дробную аварыю, пра тое, як яна ўпрыгожыла сваю летнюю рэзідэнцыю (часовае месца пражывання целаахоўніка), і як аднойчы нават адзірала з абутку адной калегі Стрэвенса сабачыя экскрэменты. Урэшце, па словах Бары Стрэвенса, ён усвядоміў, што «гатовы палезці пад кулі» дзеля свайго патрона.

**Паводле брытанскай прэсы**

### РАСІЯ. ПУЦІН — АНТЫХРЫСТ



Адна з фракцый антыпуцінскага руху прапанавала абсалютна вар'яцкую версію, адпаведна якой Уладзімір Пуцін — антыхрыст, што вядзе свет да Армагедона. Аргументацыя заснаваная на тым, што Крэмль патранаваў атамную праграму Ірану, які абяцае знішчыць Ізраіль, што бегаць цалкам пасуе паводзінам пасланца Сатаны. Наступны блок доказаў — знешняе падабенства прэзідэнта РФ да адмоўных персанажаў гісторыі, накшталт князя Юсупава, які забіў Распуціна. Такім чынам, падабенства Пуціна са шматлікімі (адмоўнымі) персанажамі гісторыі, таксама можа сведчыць пра тое, што ён з'яўляецца антыхрыстам», — робяць выснову аўтары тэорыі. Выклікае падазрэнні і тое, што ў жніўні 1999 года, калі Пуцін прыйшоў да ўлады, у Еўропе адбылося сонечнае зацьменне. А 13 мая 2000 года Пуцін стварыў сем федэральных акругаў у Расіі, што можа разглядацца як сем галоў «звера» з Апакаліпсіса. Вось такая тэорыя, якая, калі меркаваць па рэакцыі ў сеціве, не знайшла масавай падтрымкі. «Пуцін — антыхрыст? Пабойцеся Бога — так, дробны д'ябал», — піша на адным з форумаў нейкі каментатар.

**Паводле расійскай прэсы**

МЕРКАВАННЕ

# ЧАГО ЧАКАЦЬ АД БАСКАЎ?

**Па выніках выбараў у парламент Краіны Баскаў абрана рэкордная колькасць нацыяналістаў. Ці варта чакаць абвяшчэння ў бліжэйшай перспектыве незалежнасці краю? Пра гэта журналіст НЧ Алег Новікаў размаўляе з іспанскім палітолагам Ларэнца Эпіноза.**



***— На выбарах 21 кастрычніка выбаршчыкі аддалі перавагу дзвюм нацыяналістычным партыям — Баскскай партыі нацыяналістаў (PNV) і левым нацыяналістам з кааліцыі «Bildu». Абедзве партыі маюць, адпаведна, 36 і 21 месца ў парламенце, які складаецца з 75 дэпутатаў. Тэарэтычна, зараз павінен пачацца працэс разводу Віторыі (сталіца Краіны Баскаў) і Мадрыда.***

— Давядзецца пачакаць. Калі вы паглядзіце на загалоўкі іспанскіх газет, то заўважыце цікавы факт. Перамога нацыяналістаў не выклікала асаблівых хваляванняў у Мадрыдзе. Хіба што нервова адрэагавала асацыяцыя AVT, якая аб'ядноўвае ахвяр тэрарыстаў ЕТА або іх родных. Гэтыя людзі баяцца, што «Bildu» пастараецца рэабілітаваць дзейнасць ЕТА. Дарэчы, сапраўды кіраўніцтва блоку «Bildu» патрабавала стварэння ў парламенце камісіі па гістарычнай справядлівасці. У іншым назіраецца поўны штыль. Значна большую ўвагу іспанскія палітыкі надаюць падзеям у Каталоніі, дзе Артур Мас (лідар ураду) пагражае пасля мясцовых выбараў у лістападзе назваць дату правядзення рэферэндуму пра выхад рэгіёну са складу Іспаніі.

Гэта тлумачыцца, на маю думку, тым, што большасць у парламенце CAV (так называюць баскскую аўтаномію) атрымала PNV. Гэта партыя шмат разоў фармавала ўрад аўтаноміі. І хаця на словах яна выступае за незалежнасць, асаблівым сепаратызмам не запомнілася.

***— З чым звязана такая нестыкоўка? Як вядома, ідэалагічны дыскурс PNV базіруецца на вельмі радыкальнай дактрыне бацькі баскскага нацыяналізму Сабіна Арана, які не тое, што выступаў за незалежнасць, але нават крытыкаваў шлюбы баскаў з іншаземцамі...***

— Мяркую, што для гэтага трэба ўзгадаць пераходны этап ад дыктатуры да дэмакратыі ў Іспаніі. Дагэтуль PNV дзейнічала, як правіла, у эміграцыі і амаль не ўплывала на сітуацыю ў Краіне Баскаў, дзе было вельмі моцнае падполле ЕТА, якая ў ідэалагічных каардынатах была блізкая да мааістаў. Ужо зараз вядома, што ў тым ліку з дапамогай ЦРУ і Ватыкана быў прыдуманы праект адраджэння і раскруткі PNV у СМІ як альтэрнатывы партыям, сфармаваным на базе ЕТА. Так, фактычна, наноў стварылася партыя PNV, якая па рыторыцы вельмі нацыяналістычная, аднак паводле аналізу канкрэтных учынкаў — хутчэй паступовая рэфармісцкая, гатовая на кампрамісы па самых прынцыповых для нацыяналістаў пытаннях.

Менавіта PNV дапамагла Мадрыду легітымізаваць уключэнне Краіны Баскаў у склад Іспаніі падчас распрацоўкі канстытуцыі 1978 года. Напрыклад, пагадзіліся на фармулёўку: «Іспанскі народ ёсць галоўная крыніца суверэнітэту». Менавіта на гэтыя пункты канстытуцыі цяпер спасылаюцца ў Мадрыдзе, калі тая ж Каталонія патрабуе рэферэндуму наконт суверэнітэту. Добра, кажуць мадрыдскія юрысты, хай будзе рэферэндум, аднак, паводле асноўнага закону, даць свабоду каталонцам у кампетэнцыі выключна ўсяго іспанскага народу. Таму давайце правядзём плебісцыт ва ўсёй Іспаніі.

З улікам былога, цяжка чакаць ад PNV чагосьці радыкальнага. Хутчэй за ўсё, партыя Іньіга Уркулью (цяперашні лідар PNV) зноў паспрабуе прапанаваць так званы «План Ібарэчэ» (El Plan Ibarretxe) — праект рэформы статусу аўтаноміі, які распрацаваў у 2005 годзе тагачасны лідар PNV Хуан-Хасэ Ібарэчэ. Адпаведна плану, Краіна Баскаў павінна была стаць асацыіраваная дзяржавай у складзе Іспаніі і атрымаць канстытуцыйнае права на самавызначэнне праз рэферэндум. Пасля таго, як план быў завалены ў іспанскім парламенце, пра яго ўсе хутка забылі.

***— Ці можа Іньіга Уркулью і Артур Мас стварыць баскска-каталонскі саюз супраць Мадрыду?***

— Зараз Артур Мас больш радыкальны за баскскага калегу. Акрамя таго, PNV і CiU (партыя Артура Маса) даўно канфліктуюць з-за таго, куды больш пойдзе грошай з бюджэту — у Каталонію або ў Краіну Баскаў. Так, нядаўна PNV галасавала супраць прапанаванага Барселонай праекту мадэрнізацыі інфраструктуры Каталоніі за кошт іспанскага бюджэту.

***— Адпаведна цяперашняму раскладу, у парламенце PNV не мае большасці і для нармальнай дзейнасці свайго ўраду павінна шукаць партнёраў. Ці можа быць сфармаваная кааліцыя з левымі нацыяналістамі з «Bildu»? Ці магла б такая кааліцыя дамагацца незалежнасці?***

— У левых нацыяналістаў і PNV цэлы гістарычны шлейф узаемных канфліктаў. Тая ж PNV вітала забарону дзейнасці партыі «Batasuna» — папярэдніцы «Bildu». У 1980-я гады правальваліся ўсе спробы стварэння так званага «mesa national» — стала дзеючага каардынацыйнага органа нацыяналістычных партый. Аднак калі нават мінулыя крыўды ў імя незалежнасці будуць забытыя, застаецца яшчэ пытанне Навары.

Як вядома, падмуркам дзяржаўнасці баскі лічаць сярэднявечнае Наварскае каралеўства, якое ў XVI стагоддзі гвалтоўна далучылі да Кастыліі. Таму левыя нацыяналісты разглядаюць правінцыю Навара, якая не ўваходзіць у CAV, як частку гістарычных баскскіх земляў. Памплона, або, па-баскску, Ірунья, — сталіца Навары, а не Віторыя — сталіца CAV, лічыцца сапраўднай сталіцай Краіны Баскаў. Наўрад ці «Bildu» пагодзіцца на сцэнар, калі CAV стане на шлях незалежнасці, а Навара пры гэтым застанецца іспанскай.

У дадатак «Bildu» — левая партыя, якая арыентуецца на рабочы рух, экалагічныя і феміністкія ініцыятывы. Для іх важна, каб у працэсе здабыцця незалежнасці быў моцны сацыяльны складнік, асабліва цяпер, у час крызісу. PNV, у сваю чаргу, — правая цэнтрысцкая партыя. Таму пакуль фармату кааліцыі паміж гэтымі сіламі я не бачу. Хутчэй за ўсё, PNV будзе шукаць падтрымкі з боку сацыялістаў, якія маюць трэцюю фракцыю ў парламенце.

***— Выбары можна ў любым выпадку лічыць гістарычнымі, паколькі, яны адбыліся, як піша іспанская прэса, «без ЕТА», якая ўпершыню ніяк не ўплывала на ход выбарчай кампаніі. Ці гэта значыць, што баскскі тэрарызм канчаткова стаў часткай гісторыі?***

— Хацелася б верыць. Сапраўды, апошнім часам у ЕТА, па словах экспертаў, дамінуе фракцыя, якая выступае за паступовую адмову ад вайсковых дзеянняў. Ёсць інфармацыя, што банда нават гатовая самараспусціцца ў абмен на амністыю для сваіх сябраў у турмах Іспаніі. Аднак трэба ўлічыць, што пацыфікацыя адбываецца на не вельмі зручным эканамічным фоне. Іспанія на мінулым тыдні пабіла чарговы рэкорд — кожны чацвёрты іспанец, паводле статыстыкі, апынуўся беспрацоўным. Маргіналізацыя грамадства стварае ідэальную сацыяльную базу для палітычнага экстрэмізму, паколькі губляецца давер да дэмакратыі. Лепшым прыкладам з'яўляецца імклівая эрозія электарату партыі сацыялістаў, якая з трэскам прайграла выбары ў Галіцыі і ў Краіне Баскаў. Сацыялісты заўсёды шукалі вырашэнне сацыяльных праблем праз кампраміс, але, як бачым, кампрамісы і дыялогі цяпер зусім не модныя.

ДЫКТАТАР

# НАРОДНАЕ ШЧАСЦЕ

Алег НОВІКАЎ



**3 лістапада споўнілася сто гадоў з дня нараджэння парагвайскага прэзідэнта Альфрэда Стрэснера — аднаго з самых адыёзных дыктатараў XX стагоддзя.**

Стрэснер за 35 гадоў свайго кіравання Парагваем (паводле афіцыёзу, гэта эпоха называлася «народнае шчасце») нарабіў столькі, што трапіў у аналы гісторыі.

Цікава параўнаць ацэнку эпохі Стрэснера яго прыхільнікамі і апанентамі. Сімпатызанты Стрэснера ўзгадваюць перш за ўсё эпоху «народнага шчасця» як перыяд стабільнасці і нават трыумфу гуманізму. Калі ў маі 1954 года Стрэснер, камандуючы ўзброенымі сіламі Парагвая, арганізаваў вайсковы пераварот, загінуў толькі адзін чалавек. Але, нягледзячы на перамогу путчыстаў, сам Стрэснер не захацеў абвяшчаць сябе кіраўніком дзяржавы. Ён стаў ім толькі пасля выбараў. Тое, што кандыдатура Стрэснера была на тых выбарах адзінай, а сам ён атрымаў 90 працэнтаў галасоў, фанаты генерала намагаюцца не заўважаць. Пасля ён такім жа чынам пераабраўся чатыры разы.

Палітычная сістэма пры Стрэснеры была, на думку яго прыхільнікаў, амаль ідэальнай. «Перш за ўсё, ён (Стрэснер) замкнуў на сабе ўсё кіраванне краінай. Ніводнае прызначэнне ў войсках ці ў апараце чыноўнікаў не магло адбыцца без яго згоды. Працоўны дзень генерала пачынаўся ў 4.30 і працягваўся да вечара. Дыктатар асабіста вырашаў любыя спрэчкі і нават побытавыя праблемы. Нядзіўна, што ў праўладную партыю «Каларада» запісалася аж 35 працэнтаў парагвайцаў. А між ж пайсці і ў апазіцыю — у краіне акрамя «Каларада» легальна дзейнічалі апазіцыйныя партыі, якім дырэктыўна на кожных выбарах адпісвалася каля 10% галасоў.

У адрозненне ад іншых дыктатараў, генерал не хаваўся за спінамі целаахоўнікаў. Наадварот, амаль кожны вечар у адзіночку катаўся па парагвайскай сталіцы на аўтамабілі. Па вечарах Стрэснер любіў наведвацца ў шахматны клуб, дзе з задавальненнем гуляў з усімі ахвочымі, а па выходных часта аблятаў сваю краіну на самалёце, якім сам жа і кіраваў. Як прыгожую казку ўзгадваюць аматары дыктатара адзін выпадак. Паставы паліцыі адкрыў агонь па машыне дыктатара за тое, што той паехаў на чырвонае святло. Дык вось, таму паліцэйскаму нічога за гэта не было.

Што на гэта кажуць праціўнікі дыктатуры? Тое, што выбары ў Парагваі былі сфальсіфікаваныя. Чыноўнікі вынайшлі такі метад фальсіфікацыі, як «мёртвыя душы» — падчас падліку галасоў улічваліся таксама галасы памерлых выбарцаў, якія, зразумела, галасавалі за кандыдатуру генерала. Што тычыцца фенаменальнай масавасці партыі «Каларада», то сакрэт тут просты. Генерал прымусова загнаў у партыю ўсіх занятых у дзяржаўным сектары, а потым і ўладальнікаў кампаній разам з працоўнымі. Хутка нават труну па льготных коштах можна было набыць выключна пры наяўнасці партбілета. Ну а для «сярэдняга класа» сяброўства ў партыі азначала доступ да сацыяльнага ліфту. Нарэшце, падчас эпохі «народнага шчасця» ў турмах пабывала каля 10% насельніцтва. Яшчэ траціна падалася ў эміграцыю. Колькасць ахвяр, якую прыпісваюць Стрэснеру, складае 50 тысяч чалавек.

Па поглядах на эканамічную сітуацыю пры Стрэснеры ў яго фанатаў і праціўнікаў таксама разыходжанні. Адзін з антыкамуністычных сайтаў піша: «У спадчыну ад папярэднікаў Стрэснеру дасталася спустошаная краіна. Прамысловасць знаходзілася ў зачаткавым стане, інфляцыя была некіраванай, а казна пустая. Першай сваёй задачай ён паставіў барацьбу з інфляцыяй. Для гэтага Стрэснер адмяніў падаткі на экспарт, зменшыў мытныя тарыфы, забараніў крэдыт і правёў дэвальвацыю нацыянальнай валюты. Інфляцыя была пераможаная, і ў краіне пачаўся эканамічны рост. Менавіта Стрэснер навучыў парагвайцаў займацца сояй, пра якую яны раней нічога не чулі. Да 1987 года ўраджай гэтай культуры пераваліў за 1 мільён тон, не апрацоўка прыносіла каля 150 мільёнаў долараў штогод. Сярэдні ВУП пры дыктатары складаў 4 працэнты.

Аргументацыя праціўнікаў дыктатуры наступная: эканоміка пры Стрэснеры была аддадзеная на водкуп ваеннай эліце ў асобе 35 генералаў, а таксама босам партыі «Каларада». Увесь эканамічны цуд тлумачыцца кантрабандай. Парагвай стаў кантрабанднай сталіцай кантынента, дзе куплялі і прадавалі ўсё і ўся. Так, Парагвай — краіна, якая не вырабляла каву, — пры Стрэснеры быў адным з самых буйных сусветных экспарцёраў гэтага прадукту.

Пры Стрэснеры карупцыя ператварылася ў сродак кіравання дзяржавай. Што тычыцца беспрацоўя, то яго ў Парагваі сапраўды не было. Аднак такі прарыў быў дасягнуты вельмі проста: Стрэснер забараніў згадваць пра беспрацоўных як пра з'яву. Такім чынам, афіцыйна яны перасталі існаваць.

Застаецца апошні прадмет гарачых спрэчак — знешняя палітыка. Прыхільнікі Стрэснера называюць яго геніем дыпламатыі. Не маючы вялікіх рэсурсаў, Стрэснер за кошт таго, што лічыўся галоўным саюзнікам Злучаных Штатаў, дабіўся выгадных дамоў з суседзямі. Самым вялікім поспехам Стрэснера стала дамова з Бразіліяй пра будаўніцтва гіганцкай гідраэлектрастанцыі «Ітаіпу», якая дагэтуль застаецца самай вялікай ГЭС у свеце. Станцыя пакрывае 78% энергетычных патрэбаў Парагвая.

Аднак тут відавочныя супярэчнасці. Адназначная стаўка на тое, што Вашынгтон заўсёды будзе патранаваць Асунсьён (40 працэнтаў бюджэту Парагваю складалася з амерыканскіх датацый), працавала толькі ў 1960–1970-я гады — часы актывізацыі ў Лацінскай Амерыцы левых антыамерыканскіх рухаў. Як толькі прамая пагроза знікла, ЗША вырашылі самі пазбавіцца ад свайго «сукінага сына». Рональд Рэйган першым назваў Стрэснера дыктатарам і скасаваў фінансавую дапамогу для Парагваю. Гэта дабіла мясцовую эканоміку, якую і так ліхарадзіла з-за міжнародных санкцый. Акрамя таго, Стрэснеру на гэты час было за 80 гадоў. Ён мала цікавіўся тым, што адбываецца. Між тым, адпаведна прыдуманым ім правілам, нават атрымаць пагоны сяржанта было нельга без згоды генерала.

У выніку дзяржаўны апарат пачаў мізарнець. Эліце гэта не спадабалася, і пераварот, які арганізаваў адзін з родных Стрэснера, не прымусіў сябе доўга чакаць. Праўда, генералу дазволілі пакінуць краіну. Ён памёр у Бразіліі ў 2006 годзе.

Вось такія дэбаты паміж тымі, хто за і хто супраць Стрэснера. Самае цікавае, што парагвайцы ў іх мала ўдзельнічаюць. Тут, здаецца, даўно існуе кансэнсус наконт таго, што прынесла людзям эра «народнага шчасця». Соты юбілей дыктатара прайшоў вельмі ціха. Адзіныя, хто скандаліў, — дзеці Альфрэда, якія патрабуюць вяртання парэшткаў Стрэснера. Аднак яны ў яўнай меншасці. На 100-ы дзень нараджэння дыктатара на яго магілкі ў Бразіліі была пакладзена толькі адна кветка.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### НУРСУЛТАН НАЗАРБАЕЎ



Прэзідэнт Казахстана марыць жыць вечна. 1 лістапада яго мара пачала набываць рэальныя контуры. Навуковая ўстанова «Універсітэт Назарбаева», што шукае па загаду Нурсултана эліксір жыцця, прадставіла першую сваю распрацоўку ў гэтай галіне. Гэта біяпрадукт «Нәр», які знешне нагадвае ёгурт. Па словах навукоўцаў, «ёгурт» дае магчымасць падвысіць якасць жыцця і садзейнічае яе працягласці. «Распрацаваны прадукт будзе спрыяць паляпшэнню стрававання, засваенню мікраэлементаў, карысных рэчываў», — кажа адзін з сяброў групы, якая прыдумала «Нәр» (з казахскага перакладаецца як «ежа»). Праўда, вучоныя прызналі, што над вынаходніцтвам яшчэ давядзецца папрацаваць. Калі прадукт запусцяць у вытворчасць, пакуль ніхто не кажа. Навукоўцы таксама загадзя знялі з сябе адказнасць за магчымую смерць тых, хто паспрабуе з дапамогай «ежы» жыць вечна. Па словах прадстаўнікоў універсітэта, «вечнае жыццё — гэта шматфактарная задача, якая ўключае і сацыяльную праблему, і экалогію, і іншае». Усё гэта дало падставу каментатарам інтэрнэт-форумаў абвінаваціць акадэмічных даследчыкаў у падмане. Быццам яны банальна цягнуць з гаранта грошы, абяцаючы яму нейкае вечнае жыццё. Аднак развязка наступіць хутка. Назарбаеў, якому зараз 72 гады, даў навукоўцам тэрмін — прадаставіць яму эліксір жыцця да 2020 года.

### ЖЭРАР ЛАНГЕ



Былы міністр абароны Францыі абвастрыў адносіны паміж Парыжам і Алжырам. Усё з-за непрыстойнага жэсту, які ён дазволіў сабе, адказваючы падчас інтэрв'ю на пытанне, ці будуць былыя французскія салдаты, якія ў часы вайны Алжыра за незалежнасць удзельнічалі ў катаваннях і забойствах мірных грамадзян, прыцягнутыя да адказнасці. Каб яго жэстыкуляцыю зразумелі дакладна, Жэрар дадаў, што Алжыр павінен быць удзячны французам за тое, яны каланізавалі край і навучылі тубыльцаў асновам цывілізацыі. Такая трактоўка гісторыі, а яшчэ больш жэст, маментальна выклікалі абурэнне алжырскай грамадскасці. Практычна ўсе газеты перадрукавалі жэст, якім француз пасылае падалей ахвяр каланіялізму. Інцыдэнт яўна адлюструецца на намечаным на бліжэйшы час візіце французскага прэзідэнта Франсуа Аланда ў Алжыр.

### МІХАІЛ ПРОХАРАЎ

Як вядома, напрыканцы кастрычніка партыя «Грамадзянская платформа», лідарам якой з'яўляецца Прохараў, правяла з'езд. На ім Прохараў зрабіў шэраг заяў. Адну з іх дасюль гучна абмяркоўваюць, асабліва ў нацыянальных аўтаноміях Расійскай Федэрацыі. Гэтыя суб'екты Прохараў прапанаваў ліквідаваць і падзяліць Расію так, як было да рэвалюцыі — на губерні. Эліта на месцах успрыняла прапанову Прохарава як выклік. Кіраўнікі Татарстану і Башкірыі (там настроі на карысць аўтаноміі найбольш моцныя) абвінавацілі Прохарава ў спробе раскалоць Расію, стрыжнем адзінства якой, быццам, з'яўляецца менавіта гэта нацыянальна-адміністратыўная сістэма. Аднак большы інтарэс выклікае дыскусія наконт таго, ці быў Прохараў аўтарам гэтай ініцыятывы. Ёсць думка, што агучыць праект ліквідацыі нацыянальных суб'ектаў яму прапанаваў Крэмль. Як вядома, Уладзімір Пуцін на пачатку свайго знаходжання ў Крамлі заўсёды выступаў за адыход ад прынцыпу федэралізму, называючы федэралістаў заўтрашнімі сепаратыстамі. Магчыма, ён думае вярнуцца да старой задумы, таму на ўсякі выпадак з дапамогай Прохарава правярыў рэакцыю грамадства.



УСПАМІНЫ

# ПРА МАКСІМА ТАНКА І ЛАРЫСУ

Міхась ЧАРНЯЎСКІ

**Бываючы ў археалагічных экспедыцыях на Панямонні, я стараўся завітаць і да Геніюшаў. Ларыса Антонаўна, апавядаючы пра зэльвенскае жыццё, часта скардзілася на тутэйшае начальства, а на развітанне прасіла, каб я перадаў Максіму Танку (Яўгену Іванавічу Скурко) яе новыя вершы. Ёй было вельмі важна пачуць ад тады ўжо Народнага паэта аб'ектыўную ацэнку сваёй творчасці.**



Міхась ЧАРНЯЎСКІ

Не ведаю, з якой моўнай традыцыі зараз пішуць Скурко, Малько, Хвалько. На Мядзельшчыне спрадвеку было — Скурка, Малька, Хвалька, з націскам на першым складзе. Таму і для маіх бацькоў род Максіма Танка быў — Скуркі.

Тата ледзь не да пятага калена памятаў крэўныя сувязі Чарняўскіх з іншымі мядзельскімі родамі. Знаходзіў ён нейкія, хоць і вельмі далёкія, повязі з Пількаўскімі Скуркамі, здаецца, што па жаночай лініі — «па кудзелі». Шкадую зараз, што ў свой час не запісаў гэтыя генеалагічныя расповеды.

Канкрэтныя адносіны з родам Максіма Танка пачаліся яшчэ ў гады Другой сусветнай вайны, пад германскай акупацыяй. Наш хутар Гінеўка знаходзіўся далекавата ад Мядзела з нямецка-паліцэйскім гарнізонам, таму адносіўся ўжо да партызанскай зоны. З гэтай прычыны ў наша жытло, прыстасаванае з уцалелай пасля блакадных спаленняў лазні, часта зазіралі лясныя мсціўцы — пагрэцца, даведацца пра навіны, а то і пакаштаваць бацькавай самагонкі. Балазе, татаў пляменнік быў начальнікам партызанскай разведкі.

На некалькі дзён у нас запыніўся малады партызан Лёня, таксама Чарняўскі. Ён меў у сваім заплечніку паперу і каляровыя алоўкі і намаляваў цудоўны зімовы сюжэт — праз заснежаны ельнік, падсвечаны вечаровым сонцам, імчаць запрэжаныя конікам сані, якіх даганяе ваўчыная зграя, а адзін з седакоў страляе ў драпежнікаў з паляўнічага ружжа. А на развітанне той партызан падараваў мне аловак ліловага (мы казалі «бурачковага») — колеру. Не ведаю, якім чынам гэта ўклалася ў маю свядомасць, але я ўжо тады разумеў, што гэты Чарняўскі — родзіч і нам і сям'і Максіма Танка. Па вайне той Чарняўскі жыў у Мінску, але прафесійным мастаком не стаў.

Пры нагодзе тата часта прыводзіў у прыклад бацькоў і крэўных Максіма Танка, асабліва ягонага дзядзьку Фадзея. Адпраўляючы мяне ў Мінск, настаўляў, каб правільна харчаваўся і расказаў пра такую гісторыю… Калісьці Фадзей Скурка паехаў у Амерыку на заробкі. Уладкаваліся на працу, знайшлі недзе кватэру. І вось усе яго суседзі-беларусы ўляглі на кілбасы і булкі, а Фадзей кожны дзень гатуе сабе і нейкі суп. З яго смяюцца — скнара, шкадуе грошы. А скончылася тым, што Фадзеевы крытыкі злеглі ў больніцу з гастрытамі і язвамі, а таму хоць бы што.

***

У 1955 годзе я здаў уступныя экзамены на гістфак педінстытута. Быў страшэнны конкурс, але я атрымаў добрыя адзнакі, прайшоў выніковае сумоўе, на якім сказалі, каб чакаў выклік. Аднак замест выкліку прыйшла паперчына, што я не прайшоў па конкурсу. Мой бал то быў прахадны, але пару чалавек траплялі паза дапушчальную лічбу набору. «Паеду да Жэні», — сказаў тата. І накіраваўся ў Мінск, захапіўшы мой экзаменацыйны ліст з адзнакамі. І сапраўды, праз нядоўгі час з педінстытута прыйшло паведамленне, што я залічаны на завочнае аддзяленне. Я старанна вучыўся і адразу пасля выпускных экзаменаў атрымаў прапанову паступаць у аспірантуру па тэматыцы заходнееўрапейскай гісторыі. Але я хацеў быць археолагам. І сапраўды, археалогія стала заняткам усяго майго жыцця. На гэтай дзялянцы я таго-сяго дасягнуў, і мне не сорамна перад памяццю Яўгена Іванавіча.

Сваё вясковае настаўніцтва ў 1957 годзе я пачынаў якраз у Пількаўшчыне, на радзіме Максіма Танка. Праз лясок ад хутара, дзе кватараваў, знаходзілася сядзіба ягоных бацькоў. Уразіла пры наведванні вялікая этажэрка ў куце хаты, запоўненая рукапісамі. «Гэта ўсё Жэневы паперы», — патлумачыў маладому настаўніку бацька паэта Іван Хведаравіч.

Сям'я была вельмі працавітая і зусім не пітушчая. Але бутэлечка гарэлкі заўсёды недзе прыхоўвалася — для якога госця ці начальніка. Мясцовы старшыня калгаса, колішні дырэктар адной з мядзельскіх сямігодак, распавядаў такую гісторыю… Завітаў ён па нейкай справе на хутар да Скуркаў. Гаспадар запрасіў за стол, паставіў бутэльку. Гаспадыня прынесла прысмакі. Сам Іван Хведаравіч толькі мачае ў чарцы вусны, а госцю ўсё падлівае. Так за нязмушанай гаворкай і апрыходаваў старшыня ўсю бутэльку. Развітаўся, сеў у сядло на свайго жарэбчыка і меўся ад'ехаць. І тут гаспадар яго спыняе: «Антонавіч, я вам хачу нешта сказаць… Вас жа і не кранула!»

***

Але ўпершыню асабіста я сустрэўся з Яўгенам Іванавічам пад канец зімы 1974 года. Пайшоў шляхам многіх мядзельцаў, якія звярталіся да славутага земляка па дапамогу і абарону. Мяне звальнялі з працы ў Інстытуце гісторыі Акадэміі навук як нацыяналіста. А «нацыяналізм» быў у тым, што разам з аднадумцамі спрабаваў неяк супрацьстаяць разгорнутай камуністамі русіфікацыі. Справа ў тым, што праграмнымі ўстаноўкамі КПСС было стварэнне з усіх нацый і народнасцей СССР новай этнічнай супольнасці — савецкага народа, зразумела ж, рускамоўнага. І ў гэтую доменную печ асіміляцыі першымі павінны былі пайсці беларусы і ўкраінцы. Таму кожны, хто спрабаваў трымацца свайго, нацыянальнага, аўтаматычна рабіўся праціўнікам «генеральнай лініі партыі» з адпаведнымі наступствамі.



Ларыса Геніюш, Максім Танк і Вольга Церашчатава ў Музеі старажытнабеларускай культуры, 1981 г. З архіва М. Скоблы

Папярэдне патэлефанаваў, прадставіўся — і атрымаў запрашэнне прыехаць. Прыняў мяне Яўген Іванавіч вельмі прыязна, запрасіў у свой рабочы кабінет з бібліятэкай. Я абмаляваў яму сваю сітуацыю, нічога не хаваючы, бо ніякіх савецкіх законаў я не парушыў і зусім не адчуваў за сабой віны. Яўген Іванавіч ужо чуў пра справу «акадэмічнага асяродка», бо прапагандысты на ўсю рэспубліку раструбілі пра выкрыццё «нацыяналістычнага гнязда» ў Акадэміі навук. Выслухаў, паспачуваў і са скрухай заўважыў, што мусіць ужо мову ніштo не ўратуе і што мы так і не падымемся. Але паабяцаў закінуць за мяне слова ў ЦК КПБ, найперш перад сакратаром па ідэалогіі Аляксандрам Кузьміным. Недзе дзён праз дзесяць я зноў быў у Максіма Танка і даведаўся, што нашу справу ўжо ўзяла пад кантроль Масква і нічога змяніць нельга. Але Кузьмін паабяцаў, як аціхнуць жарсці, вярнуць мяне назад на ранейшую працу, як, дарэчы, і іншых, пацярпелых маладых навукоўцаў. Ну што ж, год можна пацярпець і без археалогіі, хоць грузчыкам, хоць сторажам.

Дарэчы, з Аляксандрам Трыфанавічам пазней мне давялося сустракацца і асабіста, па справе аховы помнікаў гісторыі. Склалася ўражанне, што гэта прыстойны інтэлігентны чалавек. Дарэчы, Кузьмін абараняў і Уладзіміра Караткевіча, якога «хлопцы» з адной вядомай установы хацелі запісаць у правадыры і натхняльнікі «беларускіх нацыяналістаў».

І сапраўды, праз год я ўжо зноў быў у сваім інстытуце.

А пазней давялося прасіць за іншага чалавека.

***

Узаемаадносіны Максіма Танка і Ларысы Геніюш — гэта асобная старонка. Ларыса Антонаўна любіла і надзвычай паважала Яўгена Іванавіча як асобу і творцу. У яе ўспамінах з жыцця ў Чэхіі ёсць эпізод пра сустрэчу з нейкім беларусам з Бацькаўшчыны. Той меў выданні вершаў Максіма Танка, надрукаваныя ў Заходняй Беларусі. І Геніюшы выпрасілі ў яго фотаздымак паэта з першай старонкі адной з кніжак. Яўген Іванавіч адказваў узаемнасцю — за талент, мабыць, яшчэ і за тое, што паходзіла таксама з Заходняй Беларусі, а можа патаемна і за тое, што была нескароная, як і ён калісьці ў маладосці…

Вось радкі з лістоў да Максіма Танка, якія паэтка слала з Зэльвы: «Максім Танк, харошы! … Пазнаю Вас, пазнаю, лесаруб… Спачатку я толькі адчувала, які Вы, а цяпер ужо крышачку знаю… Бывайце! Няхай Вам заўсягды будзе светла і добра!» (15.12.1966). У лістах з Зэльвы да знаёмых і прыяцеляў Ларыса Геніюш часта ўспаміналa Паэта: «Харошы Максім Танк радзіць і нам пакідаць Зэльву. Сёння я аб гэтым паважна задумалася» (23.12.1967), «Вельмі і вельмі падабалася мне ў Максіма Танка. Вельмі люблю патрыярхальныя, добрыя сем'і» (12.02.1968), «Вельмі шкадую М. Танка, якому з-за гэтых паклёпнікаў «мыюць» за мяне голаў» (12.06.1968), «У часопісе «Полымя» за снежань 1968 г. ёсць верш «Савецкая Беларусь» Максіма Танка. Верш «белы», але як там мужна, цёпла і хораша сказана пра нашу Радзіму! Чыталі? Прытым Беларусь — гэта дзяржава, якая мае сваю мову» (8.02.1969), «Глядзела сёння, як наш урад і грамадскасць віталі М. Танка. Цешыць тое, што ён яшчэ добра выглядае і добра трымаецца. Піша мне часамі. Стараўся дапамагчы, але безрэзультатна. Усё тут упіраецца ў мясцовых кацыкаў» (26.09.1982), «Была нядаўна ў Менску. Затрымалася крыху ў Музэі беларускага старажытнага мастацтва і культуры. Надзвычай цікавы музэй. Незлічоныя фонды, якія яшчэ чакаюць адпаведных заляў. Была захоплена і музэем, і Менскам, а найбольш — М. Танкам, які таксама наведаў музэй. Фатаграфавалі нас там. Прывёз мне цудоўныя падарункі ад сябе і ад жонкі» (4.12.1982), «Бачыла М. Танка. На свае 70 год выглядае яшчэ молада і бадзёра. Цешуся з гэтага, бо чалавек ён выдатны ва ўсіх разуменнях» (16.12.1982).

З 1956 года, вярнуўшыся са сталінскіх канцлагераў, сям'я Геніюшаў — лекар Янка Геніюш і сама паэтка — жыла ў Зэльве на Гродзеншчыне. З'яўляючыся асобамі без грамадзянства і маючы апінію «нацыяналістаў і антысаветчыкаў», Геніюшы былі пастаянным галаўным болем для мясцовага начальства. Яно, дэманструючы перад Гроднам і Мінскам сваю пільнасць, рознымі спосабамі ўскладняла жыццё гэтых ужо немаладых і хворых людзей.

***

Бываючы ў археалагічных экспедыцыях на Панямонні, я стараўся завітаць і да Геніюшаў. Ларыса Антонаўна, апавядаючы пра зэльвенскае жыццё, часта скардзілася на тутэйшае начальства, а на развітанне прасіла, каб я перадаў Максіму Танку яе новыя вершы. Ёй было вельмі важна пачуць ад тады ўжо Народнага паэта аб'ектыўную ацэнку сваёй творчасці.

Гэтыя просьбы Ларысы Геніюш былі мне нагодай завітаць да Максіма Танка. Перадаваў яму вершы, і ён заўсёды клапаціўся, каб яны былі надрукаваныя ў «Літаратуры і мастацтве» ці «Полымі». Расказваў Яўгену Іванавічу і пра тое, як крыўдзяць сям'ю Геніюшаў, і тады ён пачынаў хваляваццa: «Ім даўно трэба прыняць савецкае грамадзянства. Тады мы перавязём іх у Мінск, прымем яе ў Саюз пісьменнікаў, дамо добрую кватэру. Да яе паслуг будзе і пісьменніцкая паліклініка, і дом творчасці, і санаторый. Ды і вакол будзе творчае асяроддзе, не тое што ў Зэльве. Але ж яе муж, такі зацяты — не хоча, і ёй, мусіць, не дазваляе».

Калі ў 1979 годзе памёр Іван Пятровіч Геніюш, Ларыса Антонаўна засталася зусім адна, схварэлая, канчаючы сёмы дзесятак. І тады Максім Танк папрасіў мяне з'ездзіць у Зэльву і пераканаць самотніцу перабрацца

# ГЕНІЮШ

ў Мінск. Мабыць, прасіў ён аб гэтым не толькі мяне… І я паехаў, і пераконваў, хоць і адчуваў сябе несамавіта. Бо каб трапіць у Мінск і атрымаць кватэру, трэба было ўступіць у Саюз пісьменнікаў. А для гэтага было неабходна прыняць савецкае грамадзянства. Для яе ж гэта стала б здрадай Беларускай Народнай Рэспублікі, грамадзянкай якой яна сябе лічыла ўсё жыццё! І Ларыса Геніюш адмовілася, чым я, калі папраўдзе, быў усцешаны.

У 1981 годзе праходзіў з'езд Саюза пісьменнікаў Беларусі. Ларыса Геніюш была запрошаная на яго як госць. У перапынку пайшлі ў пісьменніцкую кавярню абедаць, а Ларыса Антонаўна засталася сядзець у зале. Заўважыў гэта Яўген Іванавіч, падышоў пацікавіцца, чаму не абедае. Адгаварылася, што не галодная, да таго ж трымаецца дыеты. Насамрэч саромелася, што проста апранутая ў параўнанні з выстраенымі ва ўсё лепшае іншымі пісьменніцамі і паэткамі. Яўген Іванавіч хуценька вярнуўся з кавярні з вялізным пакункам і ўручыў яго Ларысе Антонаўне. Пакунак разгарнуўся і на ўвесь яе прыпол высыпалася гурба рознакаляровых дарагіх цукерак. Такі атрымаўся вясёлкавы россып! Начуючы ў нас, Ларыса Геніюш доўга і захоплена распавядала пра гэта маёй жонцы.

* * *

Я стараўся не турбаваць лішне Яўгена Іванавіча. Сустракаўся і тэлефанаваў амаль выключна па справах Ларысы Геніюш, доўга не затрымліваўся, бо ашчаджаў творчаму чалавеку час. Гаворка вялася пераважна пра Мядзельшчыну, пра розныя даўнія здарэнні, пра мае археалагічныя занияткі, чым ён відавочна цікавіўся. Аднойчы расказаў, як з Сваткаўскай яшчэ польскай школы настаўніца вадзіла вучняў па месцах паўстання 1863 года. Трапілі яны і да Сэрвачы, дзе калісьці быў маёнтак Козела-Паклеўскага, кіраўніка інсургентаў Вілейшчыны. Бачылі там на беразе ракі вялікі крыж, усталяваны ў памяць герояў. Я потым шукаў той крыж, але безвынікова. Яшчэ яго чамусьці цікавіла ваваколле Трыдан, апавядаў пра нібыта захаваны там скарб. І ніколі мы не размаўлялі пра палітыку, пра нейкія нацыянальныя пытанні. Ён меў вопыт заходнебеларускага падпольшчыка, таму, можа, быў асцярожны.

Калі ладжу са сваімі студэнтамі вандроўкі на Мядзельшчыну, абавязкова зазіраем у Новікі. Там на старасвецкім могільніку ягонае пахаванне, побач з жонкай, бацькамі, усім родам Скуркаў. І тады ўзнікае адчуванне велічнай гармоніі — моцны і прыгожы чалавек, таленавіцейшая паэзія і вялізны каменны крыж, што глядзіць у бок Пількаўшчыны. Калі яго везлі хаваць, да дарогі выходзілі вяскоўцы, самі, без разнарадкі, апранутыя ў лепшае, жанчыны ў белых хусцінках. Маладзейшыя развіталіся з класікам: «Люблю твае, Нарач, затокі і тоні…», старэйшыя: «Гэта наш Жэня вяртаецца…»

ПАМЯЦЬ

# СІБІРСКІЯ КУРАПАТЫ

Ігар КУЗНЯЦОЎ

**У 1979 годзе, напярэдадні майскіх святаў, амаль у самым цэнтры горада Калпашава ў чарговы раз абваліўся край берага ракі Об. З абрыву, метраў з двух, тырчалі чалавечыя парэшткі: рукі, ногі, галовы. У патыліцах былі дзіркі ад куляў.**

Трупы вырашылі змыць у раку. 3 мая стройбат абнёс месца пахавання высокім плотам з надпісам: «Санітарная зона». Каля «зоны» з'явілася ахова. На ліквідацыю пахавання былі вылучаны значныя сродкі. Тыдзень вяліся падрыхтоўчыя працы, а 11–12 мая ў Калпашава прыйшлі двухтысячасільныя цеплаходы. Бераг мылі напорам вады з-пад вінтоў, якія кругласутачна працавалі на поўную магутнасць.

Тое, як працавалі цеплаходы, мог бачыць увесь горад. Трупы, што плылі па рацэ Об, добраахвотнікі вылоўлівалі бусакамі, чаплялі ім да пояса цэглу, металічныя балванкі — тапілі ў рацэ. Тых нябожчыкаў, хто не ішоў на дно, а сыходзіў у сваё апошняе падарожжа да Ледавітага акіяна, — секлі на кавалкі вёсламі. Дзень за днём, ноч за ноччу… Некаторыя целы ўсё ж былі прапушчаны, іх бачылі потым за сотні кіламетраў уніз па рацэ… Так жывыя «перамаглі» мёртвых суайчыннікаў у маі 1979 года…

## Як гэта было?

Гарадок Калпашава — невялікі і да нядаўняга часу не надта вядомы. У памяці іншае слова — Нарым. Калпашава — калісьці адміністрацыйны цэнтр Нарымскай акругі — было вызначана ў якасці адмысловай тэрытарыяльнай адзінкі ў складзе Заходне-Сібірскага краю, адведзенай для знішчэння «ворагаў народа». З усёй Сібіры, з Беларусі, з Масквы і Ленінграда звозілі іх сюды. У непралазных балотах, у тайзе, якую яны карчавалі, ляжыць многа нашых землякоў.

Падчас калектывізацыі ў Нарымскую акругу было саслана нямала сем'яў раскулачаных. Пра маштабы гэтай высылкі сведчыць лічба — 192 000 чалавек. У іх ліку — больш 20 тысяч выхадцаў з Беларусі.

Агаф'я Міхайлаўна Гаварцова-Гарноўская, што нарадзілася ў вёсцы Гарэлышы Віцебскай акругі, распавяла: «Прыйшоў 1929 год. У нашай мясцовасці пачалася арганізацыя калгасаў, і на агульным сходзе сяляне нашай вёскі Гарэлышы прапанавалі бацьку першаму запісацца ў калгас, паказаўшы прыклад іншым. Бацька быў пісьменны і меў аўтарытэт ва ўсёй нашай былой воласці. Ён адмовіўся запісвацца. Праз некалькі дзён бацьку арыштавала Віцебскае ДПУ. Яго абвінавацілі ў зрыве арганізацыі калгасу. Пратрымалі ў турме каля двух месяцаў. А неўзабаве прыехалі з ДПУ, перапісалі ўсіх, за выключэннем трох братоў: Трафіма, настаўніка мясцовай школы, Цімафея, які служыў у Чырвонай Арміі, і Антона, што працаваў геадэзістам на будаўніцтве БелГРЭС.

Прад'явілі бацьку пастанову Віцебскага ДПУ, што ён са сваёй сям'ёй высылаецца ў Сібір тэрмінам на 3 гады. На зборы далі 7 дзён. Адправілі нас без канвою да станцыі Багушэўская, а адтуль пасажырскім цягніком да Новасібірска. Новасібірскае ДПУ накіравала нас на пасяленне ў Калпашаўскі раён. Ссыльным дазвалялася працаваць толькі ў лесе. Мяне ўзялі адны гаспадары ў нянькі за 3 рублі на месяц… Аўрам працаваў у Чалкоўскім леспрамгасе бухгалтарам, Георгій — у Калпашаўскім райспажыўсаюзе таксама бухгалтарам, быў жанаты, меў двух дзяцей. Цімафей быў інспектарам Нарымскага акруговага сабесу ў Калпашава. Малодшая сястра Ліда вучылася ў Калпашаўскім педінстытуце. Надышоў жахлівы 37-ы год. Страшэнная доля спасцігла нас, Гарноўскіх…»

У снежні 1937 года быў арыштаваны Аўрам Гарноўскі, у студзені 1938-га — Георгій, Цімафей і сястра Лідзія. Пра іх далейшы лёс доўгія гады ў сям'і нічога не ведалі.

Пасля шэрагу хадайніцтваў у Пракуратуру Томскай вобласці Калпашаўскі ЗАГС выдаў маці Агаф'і Міхайлаўны даведкі, што Аўрам памёр 23.02.44 г. ва ўзросце 41 года ад гнойнага плеўрыту; Цімафей — 12.05.42 г. ад менінгіту; Георгій — 1.02.44 г. ад запалення лёгкіх. Толькі ў 1990 годзе сям'я даведалася праўду, што ўсе браты 16 лютага 1938 года былі асуджаны да расстрэлу Камісіяй НКУС і пракурора СССР і 20 лютага расстраляныя ва ўнутранай турме НКУС Калпашава.

Такі сумны лёс напаткаў у Калпашаўскім яры больш за тысячу нашых землякоў.

Масавыя расстрэлы пачаліся ў Калпашаве ў другой палове 1930-х гадоў. Падчас правядзення масавай акцыі па «выманні ворагаў народа» ў кастрычніку 1937 года з нізоўяў ракі Об у Нарымскі акруговы аддзел на двух баржах даставілі «ворагаў народа» з Аляксандраўскага, Каргасокскага, Парабельскага, Калпашаўскага раёнаў. У мэтах забеспячэння аховы гэтыя баржы былі пастаўлены на якары пасярод ракі, адкуль арыштаваныя дастаўляліся лодкамі ў акруговы аддзел Калпашава.

Карпаў С.П., былы оперупаўнаважаны калпашаўскага НКУС, прыгадвае: «У маі 1937 года я пачаў працаваць у гараддзеле НКУС. Пры НКУС знаходзілася ўнутраная турма (прыкладна восем камер). Асноўная маса арыштаваных утрымлівалася ў гарадской турме. У мае абавязкі ў гэты перыяд уваходзіла здзяйсняць арышты па ордэрах. На арышты хадзілі, як правіла, тры чалавекі з панятымі. Наша задача была даставіць арыштаванага ў аддзел. Што было далей з арыштаванымі, я не ведаю. Працу з імі здзяйснялі следчыя. Пра тое, што ва ўнутранай турме ладзілі расстрэлы, гэта значыць прыводзілі прысуды ў выкананне, я ведаў ад выканаўцаў. Расстрэлы ажыццяўляліся ва ўнутранай турме, якая знаходзілася ў будынку НКУС недалёка ад берага ракі Об…»

Яшчэ адзін былы оперупаўнаважаны калпашаўскага НКУС Мерынаў Б.Я. успамінаў: «Будынак КПЗ складаўся з 6 камер. Новасібірск зацвярджаў, каго расстрэльваць. Звычайна, у першую чаргу прыбіралі тых, каго прыгналі з цэнтральных раёнаў Беларусі, асабліва ў 1939 годзе. Назад нікога не адводзілі. Хавалі расстраляных у двары КПЗ. Ямаў было тры. У канцы хавалі там, дзе расстрэльвалі, — у камерах…»

Стараннямі работнікаў НКУС у 1930-я гады была прыдумана магутная нацыяналістычная арганізацыя «Польская арганізацыя вайсковая», якой у прыродзе не існавала, яна нібы мела свой цэнтр у Маскве і адпаведныя «камітэты» ва ўсіх рэгіёнах былога Савецкага Саюза. У адпаведнасці з дырэктыўнымі ўказаннямі УНКУС па Заходне-Сібірскім краю, такая арганізацыя была «створана» і ў Нарымскай акрузе. Пад яе непасрэдным кіраўніцтвам і па яе прамым указанні павінны былі дзейнічаць «ворагі народа» з польскімі і беларускімі прозвішчамі і імёнамі.

Асаблівых складанасцяў гэта не выклікала: працэнт палякаў і беларусаў, якія пражывалі там, быў досыць высокі.

Справы на «Польскую арганізацыю вайсковую» адрозніваліся ад іншых тым, што амаль усе яны былі групавымі. Дастаткова прыгадаць лёс жыхароў вёскі Беласток Крывашэінскага раёна Заходне-Сібірскага краю, дзе за адну ноч з 11 на 12 лютага 1938 года былі арыштаваны практычна ўсе мужчыны ва ўзросце ад 17 да 70 гадоў. Большасць з іх скончылі свой жыццёвы шлях у Калпашаўскім яры.

Былы следчы УКГБ СССР па Томскай вобласці Спрагоўскі А.І. распавёў: «У перыяд з 1955 па 1960 год я займаўся пераглядам архіўна-следчых спраў на асуджаных пазасудовымі органамі. Не буду засяроджвацца на сутнасці гэтых спраў, але адзначана магу сцвярджаць, што 99 працэнтаў праверапых спраў былі груба сфальсіфікаваны былымі работнікамі Томскага і Нарымскага аддзелаў НКУС. З сукупнасці ўсіх сабраных у гэты перыяд матэрыялаў вымалёўваецца наступная карціна… Сведкі, якіх мне давялося дапытваць, казалі, што за гэтым плотам турмы ляжаць расстраляныя ў 37–38 гадах людзі.

Памятаю паказанні Караваева Сяргея Рыгоравіча, які быў непасрэдным выканаўцам расстрэлаў (цяпер ён памёр). Тады дзейнічала брыгада, якой для смеласці давалі спірт… За плотам былі зроблены трапы, па якіх арыштаваныя ішлі да выкапанай ямы. Калі даходзілі да пэўнага месца, з хованкі гучаў стрэл. Чалавек зваьваўся ў яму… Склалася цвёрдае перакананне, што за тым плотам былі пахаваны тысячы нявінна асуджаных людзей…»

Пасля прывядзення прысудаў у выкананне трупы расстраляных перасыпаліся гашанай вапнай у ямах, выкапаных у двары. Пасля, калі плынь асуджаных рэзка павялічылася, расстраляных сталі закопваць пад насцілам камеры. Ямы з трупамі, паводле інструкцыі, раўняліся з зямлёй і нічым не пазначаліся.

У асноўным у Калпашаве расстрэльвалі ў перыяд з 8 мая 1937 года да 4 мая 1943 года. Паводле папярэдніх дадзеных, атрыманых з матэрыялаў і дакументаў Пракуратуры Томскай вобласці і ваеннага трыбунала Сібірскай ваеннай акругі, можна зрабіць выснову, што тут было знішчана ад 1 да 1,5 тысяч выхадцаў з Беларусі. Вызначыць усіх пайменна па вядомых прычынах не ўяўляецца магчымым. Назаву толькі некаторыя прозвішчы нашых землякоў, расстраляных у Калпашаўскім яры ў снежні 1939 года:

- Адамскі Браніслаў Генрыхавіч, 1894 года нараджэння;
- Бараноўскі Аляксандр Фаміч, 1893 г. н.;
- Белых Фёдар Яфімавіч, 1888 г. н.;
- Бяганскі Аляксандр Дзям'янавіч, 1904 г. н.;
- Берасневіч Іосіф Іосіфавіч, 1909 г. н.;
- Бугароўскі Іван Лявонцьевіч, 1888 г. н.;
- Віцеўскі Іван Алімпіевіч, 1905 г. н.;
- Врублеўская Кацярына Іванаўна, 1908 г. н.;
- Дарашкевіч Васіль Яфімавіч, 1901 г. н.;
- Дуда Аляксей Яначіч, 1913 г. н.;
- Дуда Ян Вітавіч, 1885 г. н.;
- Зданевіч Аляксандр Восіпавіч, 1884 г. н.;
- Здановіч Іван Васільевіч, 1910 г. н.;
- Здановіч Станіслаў Вікенцьевіч, 1882 г. н.;
- Іваноўскі Іосіф Мікалаевіч, 1903 г. н.;
- Кавецкі Адольф Васільевіч, 1892 г. н.;
- Каменка Аляксей Мікалаевіч, 1898 г. н.;
- Касцецкі Юльян Францавіч, 1880 г. н.;
- Лесняк-Чарнова Марыя Францаўна, 1891 г. н.;
- Навіцкі Апалінар Баляслававіч, 1915 г. н.;
- Палякоў-Сіліцкі Васіль Мітрафанавіч, 1904 г. н.;
- Рагачэўскі Аляксандр Пракопавіч, 1903 г. н.;
- Рагачэўскі Пракоп Пракопавіч, 1888 г. н.;
- Сварчэўскі Аляксандр Піусавіч, 1873 г. н.;
- Солтан Карней Восіпавіч, 1878 г. н.;
- Татыржа Баніфат Адамовіч, 1895 г. н. і іншыя.

Можна выказаць здагадку, што ў гэтым пахаванні было не менш за 5–6 тысяч чалавек. Хоць ёсць звесткі, што расстрэлы здзяйсняліся не толькі ў Калпашава, але і ў прыгараднай Тагуры і шэрагу іншых месцаў.

▸ **ЛІСТАПАД**

# ТРАГЕДЫЯ «У ТУМАНЕ»

Андрэй РАСІНСКІ

**На адкрыцці кінафэсту «Лістапад» была нарэшце паказаная кінастужка Сяргея Лазніцы «У тумане», зробленая паводле аднайменнага твору Васіля Быкава. Пасля Канскай прэм'еры і прызоў на міжнародных кінаагледзінах доўгачаканую стужку пабачылі ў Беларусі. Фільм Лазніцы — найлепшая экранізацыя Быкава. І гэта высокая трагедыя з падставовым беларускім характарам у цэнтры.**



Фільм пачынаецца сцэнай, знятай адным кадрам. Патыліцы людзей, якіх вядуць на шыбеніцу, пабітыя галовы, каржакаватыя целы, фатум. Тлум беларускай вёскі, але петлі ўжо ладзяцца, спакойна і будзёна; вось цягнік прыйшоў — людзі спускаюцца па сходах, хлопчык чысціць боты жаўнеру, занудлівы голас нешта чытае пра вялікую Германію і падбухторшчыкаў; на плошчы мяснік выставіў тушы. Людзей павесілі — закадравым хрустам. Камера спынілася.

Мы бачым лес — і пераплеценыя галіны, восеньская трава ў кадры. З глыбіні лесу вырастаюць коннікі — камера рухаецца ўверх, каб паказаць тых, хто набліжаецца — і гэты манументальны рух пераўтварае звычайны беларускі лес у амаль метафізічныя дэкарацыі, прымушае праваліцца ў карціну — і не адрываць вачэй ад экрана.

Сюжэт стужкі, што ідзе за аповесцю Быкава, лаканічны і просты. Два партызаны Бураў і Войцік прыходзяць, каб пакараць смерцю абходчыка Сушчэню, які — у гэтым усе перакананыя — выдаў сваіх сяброў. Сушчэня гасцей чакае. Але герой ані ў чым не вінаваты: нацысты адмыслова пакінулі яго ў жывых, каб спляжыць — і каб чалавека забілі свае ж. Бурава падстрэльваюць у гушчарніку паліцаі — і Сушчэня нясе свайго няздзейсненага забойцу на спіне. Войцік думае толькі пра сваю шкуру, але і ён ловіць кулю. Сушчэня застаецца самнасам з памерлымі партызанамі — і адзіны чын, каб давесці сваю праўду, — зрабіць сабе смерць.

У кожнага з герояў ёсць папярэдняя гісторыя. Сушчэня (Уладзімір Свірскі) адмаўляецца супрацоўнічаць з нацыстамі, і бязвінны вырачаны на грамадскае зганьбаванне. Бураў (Уладзіслаў Абашын), які сумняваецца ў вырку Сушчэні, сышоў у партызаны, калі спаліў забраны паліцаямі аўтамабіль. Прыстасаванец Войцік (Сяргей Колесаў) ужо аднойчы загубіў людзей, ратуючы сябе.

Але ясныя і акрэсленыя героі — гэта не толькі тыпы: «святога; чалавека, які сумняваецца, і злачынцы», як казаў у гутарцы Лазніца. Рэжысёр, які пачынаў дакументалістам, зрабіў фільм, дзе за штодзённай дакладнасцю хаваецца веліч антычнай трагедыі.

Толькі замест дэкламацый тут — сціслыя фразы, а замест хору — музыка гукаў: застрашальны шум гадзінніка, закадравы клёкат крумкачоў, што сабраліся над целам і махаюць крыламі (Лазніца ўвогуле адмовіўся ў карціне ад музыкі).

Беларуская хатка — гэта антычная сцэна, а лес — гэта Аід.

Пры гэтым кадры ані на каліва не губляюць сваёй фактурнай рэальнасці, але дзякуючы светлавому майстэрству аператара Алега Муту і гукавой партытуры Уладзіміра Галаўніцкага набываюць метафізічнае вымярэнне.

Вось шараговая сцэна: Бураў крадзецца, каб падпаліць машыну. Чорныя, тлустыя галіны дрэваў лезуць у кадр: душа прагне помсты. Дзесьці то вые, то захлынаецца кашлем сабака, каб звягліва распачаць зноў — напружанне то сціскаецца, то завісае перад вырашальным дзеяннем. Чырвоны колер лютасці б'е полымем. А калі Бураў крочыць да партызанаў, то перасякае счарнелую і ледзяную пашу — тэрыторыю мёртвых, пекла. Папярэдняя стужка Лазніцы «Шчасце маё» таксама абапіралася на іншасветную і міфалагічную прастору — старанна замаскаваную пад чарнушную расійскую рэчаіснасць, — але не мела такіх герояў і такіх маральных канфліктаў.

Быкаўскія героі, Быкаўскія пейзажы (ствараюць настрой і адлюстроўваюць душу), Быкаўскія разважанні і ўспаміны герояў увасобіліся ў фільме — перакanaучным, як першыя каляровыя фатаграфіі.

Гукавое жыццё карціны, дзе сам стаіш перад выбарам, мае толькі адну недасканаласць — празмерную рускую мову фільму.

У абсалютнай сімфоніі гукаў мова, на якой гавораць героі, — гэта збой такту. Мова, увогуле, адмысловы чыннік стужкі, тым болей, калі гутарка ідзе пра шэдэўр. Мова — гэта і лексіка, і сэнс, і мелодыя зыкаў, і адценні, і акцэнты, якія мусяць спрацаваць.

Калі на рускай мове з акцэнтам гаворыць нямецкі афіцэр, сыграны Уладам Івановым, — руская мова апранаецца ім як дагледжаны мундзір і цалкам на сваім месцы. Шокава-праўдзіва гучыць загад на павешанне (знойдзены Лазніцаю сапраўдны дакумент), хаця з лёгкім акцэнтам было б праўдзівей.

Калі нейкія прахадныя, не самыя важныя фразы кідае на рускай мове Войцік, гэта таксама яму да твару — ахайнага і пагоненага. Але калі эмацыйны градус расце — руская мова ў ягоных вуснах пачынае фальшывіць.

Інтанацыі герояў у карціне — паміж дакументальнасцю і экзістэнцыйным пафасам, што збіваецца на дэкламацыі, — і руская мова, узятая з перакладаў Быкава, выдае сцішана-пластыкавыя зыкі, што, зрэшты, заўважаць толькі ў Беларусі. Калі б мова Бурава вагалася б ад чыстае беларускае да трасянкі — у залежнасці ад сітуацыі — гэта толькі спрацавала б на ягоны вобраз. Занадта стэрыльнае рускае вымаўленне паліцаяў і вясковых жанчын. І зусім не пасуе руская мова галоўнаму герою — Сушчэню. Толькі на вяршыні ягонае споведзі ўвогуле не зважаеш на мову. Правільная руская мова разбурае рэальнасць дасканалае стужкі, але гэта адзіная трэшчынка ў дыяменце.

Знятая на нямецкія грошы інтэрнацыянальная карціна «У тумане» — гэта самы беларускі фільм апошняга часу. І не толькі таму, што гэта экранізацыя Быкава, зробленая з удзелам «Беларусьфільму» і з мясцовымі творцамі ў групе (рэжысёр Сяргей Лазніца, галоўны акцёр Уладзімір Свірскі, гукааператар Уладзімір Галаўніцкі — з Беларусі).

Карціна дае вобраз беларускага героя. Сушчэня, сыграны Уладзімірам Свірскім, — гэта чалавек сумлення, здольны на маральны выбар у амаральных умовах. Ягоная адмова ад хаўрусу са злом працінае. Гэта герой трагедыі, хаця аповесць «У тумане» — бадай, сама песімістычны і змрочны твор Быкава. У трагедыі герой гіне, але перамагае духоўна. Стрэл, што прагучаў у тумане, — гэта не смерць. Катарсіс, слёзы «страху і спачування» — гэта пачатак новага жыцця.

▸ **КНІГАРНЯ**

# СТО БЕЛАРУСКІХ ЛЕГЕНД І ПАДАННЯЎ

Сяргей ЧЫГРЫН

**З друку выйшла кніга беларускага празаіка Уладзіміра Ягоўдзіка «Сіні калодзеж».**

У кнігу ўвайшлі сто беларускіх легенд і паданняў, якія сабраў, пераказаў, апрацаваў Уладзімір Ягоўдзік. У кнізе, як піша аўтар, «няма золатасрэбра, а толькі алмазы», якія рупліва некалі збіралі фалькларысты Раманаў, Федароўскі, Шэйн, Кіркор, Сержпутоўскі, Шпілеўскі, Ластоўскі, Сахараў і многія іншыя. «Я адважыўся гэтыя народныя алмазы адшліфаваць у брыльянты, але мае брыльянты чамусьці ператварыліся ў ледзяшы, зашморгалі насамі і наплакалі лужыны», — прызнаецца аўтар.

Ад роспачы сам пісьменнік ледзь не расплакаўся слязамі, як гэта зрабіў князь Рыдан і яго сыны Дняпро і Сож. Але ў апошні момант передумаў, паехаў на Магілёўшчыну, да святога Сіняга калодзежа, каб прамыць вочы. Спыніўся на зялёным беражку і ўбачыў перад сабой зорны карагод. Не разгубіўся аўтар, зачарпнуў крынічнай вады, а заадно — паўнюткае вядро зорак. Сам удосталь напіўся і прынёс нам, чытачам. Прынёс, каб мы частаваліся. І той, хто прачытае сто беларускіх легенд і паданняў Уладзіміра Ягоўдзіка, сапраўды нап'ецца святой зорнай вады з Сіняга калодзежа.

Кніга вельмі прыгожа аформлена. Дызайн выдання зрабіла дачка пісьменніка Вера, а ілюстрацыі намалявала другая дачка аўтара Юлія. Наклад кнігі — 3 тысячы асобнікаў.




Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
Кароль Аляксей Сцяпанавіч

Зарэгістравана Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК:** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ:** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА:**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. (+375 29) 651 21 12, (+375 17) 268 52 81.
novychas@gmail.com; www.novychas.org

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.

Замова № 1159

Падпісана да друку 9.11.2012. 8.00.

Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.

Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая.

Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.